Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 46 (4846) 20 лістапада 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі часопіса «Нёман» з 70-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара гэтага беларускага літаратурна-мастацкага выдання. «За гады свайго існавання часопіс адыграў значную ролю ў развіцці айчыннай літаратуры. У ім друкаваліся найбольш яркія творы беларускіх і замежных аўтараў, актуальная крытыка і публіцыстыка. Сёння «Нёман» працягвае гэтую традыцыю, пастаянна пашыраючы жанравы і тэматычны спектр публікацый», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў калектыў Беларускага радыё Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі з 90-годдзем. «Сёння ваш калектыў достойна працягвае традыцыі айчыннай радыёжурналістыкі і ўпісвае новыя старонкі ў гукавы летапіс дзяржавы. Інфармацыйныя, аналітычныя, культурна-пазнавальныя, музычныя перадачы адлюстроўваюць маральныя і духоўныя каштоўнасці беларускага грамадства, прапагандуюць эстэтычныя ідэалы і любоў да роднай зямлі. Невыпадкова яны карыстаюцца папулярнасцю ў шматмільённай аўдыторыі не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі», — адзначана ў віншаванні.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў з 70-годдзем заснавання. «У сценах акадэміі закладзены асновы многіх напрамкаў беларускага прафесійнага мастацтва, створаны нацыянальныя творчыя школы, выхаваны пакаленні славутых акцёраў, рэжысёраў, мастакоў і дызайнераў. Выпускнікі акадэміі робяць вялікі ўклад у развіццё нацыянальнай культуры, прымнажаюць гонар і славу Айчыны», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ У панядзелак на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета адбудзецца справаздачны канцэрт лаўрэатаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, прысвечаны 20-годдзю фонду. Свае таленты пакажа новае пакаленне беларускіх выканаўцаў — фартэпіянны дуэт Настассі і Дар'і Лукашэнка, Уладзіслаў Хандогі, Аляксандра Чыжык, Канстанцін Геронік, а таксама прызнаныя зоркі беларускай оперы і балета Юрый Гарадзецкі, Таццяна Гаўрылава, Уладзімір Громаў і інш.

✔ У Мадрыдзе адбылася прэзентацыя перакладу паэмы Максіма Багдановіча «Вежа міру» на іспанскую мову. Твор перастварыла грамадзянка Беларусі Настасся Кузьменка, якая пастаянна пражывае ў Іспаніі. Кніга выдадзена выдавецтвам «Сервантэс і Кампанія» з ілюстрацыямі іспанскай мастачкі Монікі Гуцьерэс.

ISSN 0024-4686



# «Я працую Макаёнкам!»



Фота Кастуся Дробава.

*Аляксей Дудараў і Генадзь Аўсяннікаў.*

**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры адзначыў у доме Багдановіча дзень нараджэння драматурга Андрэя Макаёнка. Андрэй Ягоравіч не з тых творцаў, пра якіх ходзяць рамантычныя легенды ці показкі. Прыбліжанасць да ўладу маючых адбілася і на яго вобразе, і сёння Макаёнак успрымаецца выключна як асоба дзяржаўная. Але ён быў проста чалавек, і пра гэта распавялі сябры драматурга, блізкія знаёмцы і калегі. У іх памяці захаваўся зусім іншы Макаёнак…**

Чытайце на стар. 7

# Спроба спыніць час

**Васямнаццаць гадоў — тэрмін паўналецця. За гэты час, як прынята лічыць, вырастае чалавек. І цяжка ўявіць, як пачуваецца той, хто згубіў васямнаццаць гадоў жыцця.**

Ян Скрыган згубіў больш.

Першы арышт — 13 лістапада 1936 года. Амаль праз год, 5 кастрычніка 1937 года, яго вышлюць у Нова-Іванаўскі лагер Кемераўскай вобласці, у той час як іншых арыштаваных пісьменнікаў чакаў яшчэ горшы прысуд. Пазней у Маскве расстраляюць Паўлюка Шукайлу — чалавека, пад чыім уплывам Ян Скрыган пачне шлях у літаратуру. Пра яго — і пра многіх іншых — Іван Аляксеевіч напіша пазней.

Першае кола пройдзена. У 1949-м — новы арышт.

Але Ян Скрыган выстаіць і вернецца. Гэта было б немагчыма без сям'і. Спачатку падтрымлівала думка пра жонку Галіну і сына Усевалада, якога Івану Аляксеевічу так і не суджана было пабачыць. Потым чакалі жонка Ганна і дачка Галіна.

І сёння Галіна Іванаўна Скрыган распавядае пра свайго бацьку.



*Адзін з апошніх здымкаў Яна Скрыгана. 1985 г.*

Чытайце на стар. 6

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Наперадзе — сталенне

**Кожны юбілей — падзея, калі хочацца асэнсаваць зробленае, усвядоміць здабыткі і хібы. Дзесяць гадоў прайшло з дня пераўтварэння Саюза пісьменнікаў як творчай арганізацыі. Ці шмат гэта? Можна меркаваць па-рознаму. Але дзесяць гадоў — гэта першая круглая дата ў жыццядзейнасці нашага саюза і першая двухзначная лічба, напоўненая карпатлівай працай аднадумцаў.**



Што паклалі пісьменнікі Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ў літаратурную скарбонку краіны за гэты час? Чым кіраваліся і якім прыярытэтам аддавалі перавагу? Сёння кірункі працы нашай арганізацыі дакладныя і ясныя. Галоўная ўвага заўсёды людзям. Магчыма, таму многіх гродзенскіх творцаў сёння ведаюць у твар, пазнаюць па стылі, рады бачыць у любой чытацкай аўдыторыі. Самыя патаемныя струны душы кранае лірыка паэтэс Тамары Мазур, Алы Клемянок, Алы Нікіпорчык, Мар'яна Дуксы, Галіны Самойла, Марыі Шаўчонак, рускамоўных паэтаў Георгія Кісялёва, Мікалая Сярова, Людмілы Шаўчэнка. У прозе дасягнулі пэўнага майстэрства Ніна Рыбік, Ліна Багданава, Іван Пяшко, Ірына Фамянкова. Вызначыліся ў жанравых і тэматычных кірунках пісьменнікі малодшага пакалення Марыя Цітарчук і Антон Янкоўскі. Творы вышэйназваных гродзенскіх літаратараў неаднаразова адзначаліся ўзнагародамі на абласных і рэспубліканскіх літаратурных конкурсах. Ганарымся, што з 2005 года сябры Гродзенскага абласнога аддзялення штогод атрымліваюць прэстыжную абласную прэмію імя Аляксандра Дубко «За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва» ў намінацыі «Пісьменнік года». Шэсць пісьменнікаў аддзялення сталі пераможцамі абласнога конкурсу рукапісаў імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Адзінаццаць пісьменнікаў атрымалі дыпломы рэспубліканскага конкурсу «Лепшы твор года» і статуэткі залатога купідона. Дзіцячая пісьменніца Ганна Скаржынская-Савіцкая сёлета ўганаравана Нацыянальнай літаратурнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Творы Віктара Кудлачова, Таццяны Сучковай, Аліны Сабуць, Ірыны Войтка ды іншых уключаны ў беларускія падручнікі. Алена Руцкая ды Ірына Фамянкова — аўтары метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, студэнтаў і школьнікаў.

Калі аналізаваць пройдзеныя дзесяць гадоў больш дасціпна, дык першыя трычатыры з іх былі арганізацыйнымі — перыядам станаўлення. Цяпер мы можам гаварыць пра стабільнасць у нашай працы, прыкметы якой — яснае ўсведамленне задач і мэт, напрамкаў дзейнасці, індывідуальны падыход да творчасці кожнага аўтара, свядомая рэалізацыя ідэі саюзнасці і рэгіянальнай адметнасці.

Шмат што адбылося ў нашай літаратурна-творчай і культурна-грамадскай дзейнасці ўпершыню. Адбылося і замацавалася, стала традыцыяй. Так, мы заснавалі абласны літаратурны конкурс рукапісаў, адрадзілі выданне літаратурных альманахаў і ўжо рыхтуем да выдання пяты нумар. Упершыню ініцыявалі і правялі канцэрт твораў мясцовых кампазітараў на словы гродзенскіх паэтаў, які стаўся сапраўднай падзеяй у культурным жыцці горада над Нёманам. У 2011 годзе адбылася першая нарада маладых літаратараў Беларусі і Расіі, падчас якой праводзіліся семінары, «круглыя сталы», экскурсіі, майстар-класы з удзелам Сяргея Трахімёнка, Алеся Бадака, Валерыя Казакова, Валянціны Паліканіна. Менавіта наша аддзяленне выйшла з прапановай да гарадскіх улад, адукацыйных, культурных ды іншых устаноў горада і правяло ў 2012 годзе акцыю «Вялікае чытанне: чытаем разам паэму Якуба Коласа "Новая зямля"». Упершыню ў Кнігу славы Гродзенскай вобласці занесена імя літаратара — Віктара Кудлачова. Імя гэтага дзіцячага пісьменніка прысвоена бібліятэцы Гродзенскага гуманітарнага каледжа. У гарадской СШ № 3 адкрыты літаратурны пакой-музей «Гродзеншчына літаратурная», у Лойкаўскай сярэдняй школе Гродзенскага раёна — літаратурны куток, прысвечаны творчасці Ганны Скаржынскай-Савіцкай.

Папулярызацыі творчасці спрыяюць свядома запланаваныя мерапрыемствы і сустрэчы з чытачамі. У лічбах гэта выглядае прыблізна так: праведзена каля 3000 сустрэч; больш як 2000 публікацый; выдадзена 165 кніг; творы пісьменнікаў надрукаваны ў 18 калектыўных зборніках; адбылося 72 прэзентацыі творчасці і новых кніг; дадзена каля пяцісот кансультацый пачынаючым аўтарам; каля 200 публікацый на розных сайтах; праведзена больш як 30 конкурсаў.

Прыемна, што з кожным годам месцаў, дзе могуць сустракацца аднадумцы, аматары паэзіі, становіцца больш: летась у Гродне адкрылася літаратурная кавярня «Тры свечкі», а са студзеня 2015 года на абласным тэлебачанні стартавалі адразу два праекты: праграма «ЛітАратар» — дакументальныя фільмы пра пісьменнікаў — і «Вершаваныя імгненні» — невялікія паэтычныя замалёўкі на вершы гродзенскіх паэтаў. Ноу-хау — адкрыццё пры аддзяленні дыскусійнага клуба «Словадромʼ», першае пасяджэнне якога адбылося 26 лістапада. Шмат цікавых ідэй рэалізавалася з прыходам на працу ў штат аддзялення адметнага паэта, публіцыста, крытыка Дзмітрыя Радзівончыка, ініцыятара многіх прапаноў і праектаў, аўтара шэрагу артыкулаў на нашым сайце.

Адзін з найвялікшых клопатаў арганізацыі — творчая моладзь. Свае першыя зборнікі паэзіі сёння выдалі Раман Жытко, Аліна Паўлоўская, Вікторыя Смолка, Наталля Цвірко, якія друкаваліся ў некалькіх часопісах і калектыўных зборніках, перамаглі ў конкурсах рускай паэзіі ў Брэсце і шматлікіх мясцовых. Кірыл Котаў уразіў сваім паэтычным мысленнем нават лонданскую публіку. А яшчэ наша моладзь з задавальненнем брала ўдзел у закладцы алеі гродзенскіх пісьменнікаў: 28 кастрычніка ў Каложскім парку было пасаджана дзесяць сібірскіх кедраў — у гонар 10-годдзя Саюза пісьменнікаў. Спадзяёмся, што моцныя, вынослівыя дрэвы дапамогуць і нам годна прайсці выпрабаванні часу.

Шмат можна расказваць пра набыткі аддзялення, але самае галоўнае, што мы разам робім важную і цікавую справу па ўмацаванні ролі пісьменніка ў грамадстве. Разварушваем культурную прастору вобласці, разам з абласным аддзяленнем беларускага Саюза мастакоў і мясцовымі кампазітарамі прыцягваем увагу да сучаснай беларускай літаратуры, стваральнікамі якой з'яўляемся, а таксама выяўленчага мастацтва і музыкі. Зразумела, не ўсё пры́ме і ацэніць прынцыповая спадарыня Кліа, але ўпэўнена, што голас пісьменніка, памножаны рэхам, застанецца.

**Людміла КЕБІЧ**

## Лірыка на сцэне

Чарговыя, XIX-я, Мінскія паэтычныя чытанні прайшлі днямі ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Традыцыйна сваю творчасць прадставілі айчынныя паэты — сябры Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

Прывітальным словам XIX Мінскія паэтычныя чытанні адкрыў старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў. Канцэртную праграму па творах сучасных айчынных паэтаў падрыхтавалі і правялі маладыя акцёры паэтычнага тэатра «Рытмы сэрца» Цэнтра культурна-масавай работы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. Кіраўнік гэтага тэатра — Кацярына Салата.

У аўтарскім выкананні публіка пачула вершы Віктара Шніпа, Міколы Шабовіча, Міхася Пазнякова, Дзмітрыя Дзямідовіча, Іны Фраловай, Яны Явіч, Анастасіі Кузьмічовай, Уладзіміра Тулінава, студэнткі факультэта міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта Валерыі Ісаковіч, кандыдата ў члены СПБ Ганны Мартынчык, а яшчэ — песні ў выкананні празаіка і барда Сяргея Трахімёнка.

**Арына КРАЙКО**

# Развагі пра шчасце

Прыкметнай для ўсіх кінаманаў краіны падзеяй стаў XXII Міжнародны кінафестываль «Лістапад». Вынікі былі падвезеныя 13 лістапада ў сталічным кінатэатры «Масква».

Лепшым фільмам стаў «Урок», сумесны праект Балгарыі і Грэцыі ад рэжысёраў Крысціны Грозевай і Петэра Вылчанава. Карціна апавядае пра маладую настаўніцу Надзею з маленькага балгарскага гарадка, якая шукае справядлівасць, вучыць дзяцей дабрыні, а сама трапляе ў сітуацыю выбару, калі праўду складана адрозніць ад хлусні і выжыванне становіцца першачарговай задачай. Узнагарод на «Лістападзе» традыцыйна вельмі шмат (ндзіўна, бо гэтым разам было прадстаўлена 184 карціны з 60 краін). Спынімся на самых асноўных.

«Срэбра» фестывалю ў намінацыі «Фільм як з'ява мастацтва», а таксама спецыяльная прыза журы «За творчую смеласць у разуменні сучаснасці» ўдастоілася карціна «Праект стагоддзя» Карласа Кінтэлы з найшырэйшай геаграфіяй. Стваральнікі стужкі прадстаўляюць цэлыя чатыры краіны — Кубу, Аргенціну, Германію і Швейцарыю. «Праект стагоддзя» — гэта аповед пра будаўніцтва атамнай электрастанцыі на Кубе, рэалізацыю ідэі СССР, якая пасля распаду краіны была «замарожана»... У цэнтры сюжэта — горад-прывід, якому калісьці прадказвалі вялікую будучыню, і жыццё трох герояў — бацькі, сына і ўнука, а таксама іх хатняга гадаванца — рыбкі Бенджаміна. Мужчыны вучацца жыць у згодзе і спраўляцца з адзінотай.

Прыз глядацкіх сімпатый — «бронзу» «Лістапада» атрымаў фільм «Бараны» Грымюра Хаўканарсона (Ісландыя, Данія). Яму таксама ўручана спецыяльная ўзнагарода Мінгарвыканкама. Прызы «За лепшую рэжысуру» і «За лепшую аператарскую работу імя Ю. А. Марухіна» дасталіся фільму «Зеніт» — рэжысёру Далібору Матанічу і аператару Марка Брдару (Харватыя, Сербія, Славенія).

Прызам «За лепшы фільм конкурсу ігравога кіно «Маладосць на маршы імя народнага артыста СССР кінарэжысёра В. Т. Турава» адзначана стужка «Піянеры-героі» Наталлі Кудрашовай. Карціна распавядае пра трох школьных сяброў, дарослых і паспяховых людзей — актрысу, PR-спецыяліста ў буйным агенцтве і палітычнага аналітыка. Машыны і кватэры не прыносяць ім шчасця. Яны тужліва азіраюцца ў мінулае, успамінаюць ідэі і мары савецкіх часоў, калі яшчэ верылі ў вялікую ідэю і абсалютнае шчасце...

Гран-пры «За лепшы дакументальны фільм» прысуджана стужцы «Браты». Рэжысёр Войцэх Старонь (Польшча) увасобіў на экране гісторыю двух зусім розных братоў, уцекачоў з працоўнага лагера СССР — летуценніка-мастака і прагматыка-навукоўца. Прыз «За лепшы фільм конкурсу маладога дакументальнага кіно» атрымала карціна «Ямаха» Іны Амельчанка. Лепшым ігравым фільмам Нацыянальнага конкурсу «Лістапада» стала карціна «Беларускі псіхапат» Мікіты Лаўрэцкага, дакументальным — стужка «Госці» Андрэя Куцілы, анімацыйным — мультфільм «Пра вала» Яўгена Надтачэя.

Спецыяльны прыз Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За гуманізм і духоўнасць у кіно» прысуджаны фільму «Нябесныя качавыя» Мірлана Абдыкалыкава. Дзеянне разгортваецца ў гарах Кыргызстана, а галоўныя героі — сям'я качэўнікаў — пастух, яго жонка, нявестка і ўнучка. Гэта лірычны эцюд пра народныя традыцыі, якія знаходзяцца на мяжы знікнення, і неверагодна прыгожыя краявіды, а яшчэ — аповед пра звычайную жанчыну, што страціла блізкага чалавека, але зноў атрымала надзею на выратаванне — ад адзіноты.

**Марыя ВОЙЦІК**

*За падзеяй*

## Далучымся да акцыі!

У Доме кнігі «Светач» у межах рэспубліканскай акцыі «Сямейнае чытанне» прайшоў «Кніжны марафон». Кнігі выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў дзень марафону можна было набыць з 10-працэнтнай зніжкай, да таго ж кожны пакупнік атрымліваў падарунак ад выдавецтва. Перад наведвальнікамі кнігарні выступалі айчынныя паэты, празаікі, выканаўцы аўтарскай песні.

Вядучы спецыяліст выдавецтва «Мастацкая літаратура» Зося Кустава падкрэсліла: мэта «кніжных марафонаў», якія, дарэчы, установа ладзіць рэгулярна, — далучэнне да кнігі, чытання як мага большай колькасці дзяцей і дарослых.

На новы «Кніжны марафон» завіталі сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктар Шніп, Дзмітрый Пятровіч, Анатоль Зэкаў ды іншыя творцы. Тут адбылася і сустрэча з паэтам, празаікам, публіцыстам, перакладчыкам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым. Міхась Паўлавіч — яшчэ і ўкладальнік «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы», пра падрыхтоўку якога ён і распавёў публіцы. Размова з М. Пазняковым датычыла таксама працы з творчай моладдзю, выдання кніг маладых аўтараў.

Завяршылася імпрэза ў «Светачы» беларускамоўным спектаклем «Мама Му ў басейне» паводле адной з казачных гісторый, створаных шведскай пісьменніцай Юяй Віслəндэр, у выкананні акцёраў лялечнага тэатра «Лямцавая батлейка» Веранікі Фаміной і Бэлы Кавальковай.

**Яна ЯВІЧ**

Рэдкалегія

# Рашучы крок у сёння

Сёлетняе пасяджэнне рэдкалегіі часопіса «Полымя» атрымалася на дзіва шматгалосым і ажыўленым. Адкрытая атмасфера сяброўскай гутаркі і аргументаваная дыскусія — галоўныя складнікі плённага вырашэння важных пытанняў, якіх за год назбіралася багата. Новы склад рэдакцыі, новыя рубрыкі і вектары руху… Апрабацыя вынікаў працы ў друку — яшчэ не гарантыя поспеху, — трэба пачуць думкі аўтарытэтных «экспертаў».

Задала тон размове намеснік галоўнага рэдактара часопіса Алена Мальчэўская, якая адзначыла, што генеральная лінія выдання не змянілася, аднак сёння «Полымя» набыло новыя рысы: як у плане змястоўнага напаўнення, так і знешняй формы. Пры захаванні дамінуючай ролі мастацка-літаратурнага блока актыўна ўзрастае роля крытыка-публіцыстычнага. Актуалізуецца значнасць як архіўных матэрыялаў (эпісталярная спадчына Стэфаніі Станюты, Васіля Быкава, дзённікі Янкі Брыля, Максіма Танка), так і сучаснай дакументалістыкі (успаміны Льва Коласава, дзённікі Віктара Шніпа).

Вялікі рэзананс мела дыскусія па выніках акцыі «Топ-10 любімых твораў беларускай літаратуры». Мастацкае жыццё краіны прадстаўляюць публікацыі Таццяны Арловай, Зоі Матусевіч, Галіны Багданавай. Цёплыя водгукі атрымала нізка ўспамінаў выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў «Мая акадэмія» да 70-годдзя ВНУ. Цікавымі публікацыямі Лады Алейнік і Людмілы Сіньковай папоўнілася рубрыка «Крытыка і літаратуразнаўства». На старонках «Полымя» былі размешчаны пераклады з сербскай, турэцкай, французскай, нямецкай, туркменскай, казахскай і ўкраінскай моў. Прычым гэтая стратэгія пашыраецца і на навуковыя публікацыі: да друку рыхтуюцца артыкулы сербскіх і ўкраінскіх даследчыкаў.

Свае меркаванні пра змены ў часопісе, парады аб перспектыўным плане развіцця выказалі члены рэдкалегіі. Напрыклад, Уладзімір Гніламёдаў ухваліў цікавасць сённяшніх «палымянцаў» да ўспамінаў, дакументальных матэрыялаў. «Часопіс павінен даваць панарамную карціну сучаснасці. Паказваць, што робіцца вакол і як выглядае сучасны беларус», — параіў Уладзімір Васільевіч.

Мікола Мятліцкі выказаў задавальненне наконт захавання лепшых традыцый часопіса: «Асабіста мне вельмі прыемна, што цяперашняя рэдакцыя захоўвае лінію развіцця часопіса, якая выбудоўвалася шмат гадоў. Лічу, што гэты год для «Полымя» вызначаны публікацыяй успамінаў Льва Коласава». Для аднаўлення перакладчыцкай школы, што гуртавалася вакол выдання, Мікалай Міхайлавіч прапанаваў перыядычна арганізоўваць конкурсы перакладчыкаў. Працягваць традыцыю «брэндавасці» галоўнага літаратурнага часопіса краіны заклікае Навум Гальпяровіч: «Нельга зніжаць планку пры адборы твораў, бо трэба мець на ўвазе, што ў «Полымя» падрыхтаваны чытач».

Праводзіць конкурсы сярод моладзі, звяртацца па супрацоўніцтва ў грамадскае аб'яднанне «Веды», Акадэмію навук параіў акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя. Падрыхтаваць серыю публікацый супрацоўнікаў Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі для палымянскай рубрыкі «Культура мовы» абяцаў дырэктар установы Аляксандр Лукашанец.

Нягледзячы на складанасці, старэйшы літаратурны часопіс Беларусі ўпэўнена крочыць у сённяшні дзень. Ён не губляе лепшых традыцый, але і чуйна рэагуе на новыя тэндэнцыі, — да такой высновы прыйшлі члены рэдкалегіі падчас абмеркавання працы рэдакцыі ў 2014 — 2015 гг. «Полымя» адлюстроўвае сучасны стан развіцця беларускай літаратуры, дынаміку літаратурнага працэсу. Якая будучыня ў выдання? У многім гэта залежыць ад попыту грамадства на якасную літаратуру і цікавасць да культурнага жыцця краіны.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА,**
**рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Полымя»**

# Цікавосткі ад «Бярозкі»

Чаго дасягнулі за першы год існавання і што рабіць далей, абмяркоўвалі падчас рэдкалегіі ў часопісе для падлеткаў «Бярозка».

Сярод удзельнікаў размовы — намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота, пісьменнікі Людміла Рублеўская, Валерый Гапееў, псіхолаг Святлана Сітнік, начальнік упраўлення па справах моладзі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Наталля Пшанічная.

На адрас «Бярозкі» прагучала шмат добрых слоў і арыгінальных ідэй. Не абышлося, канечне, без крытыкі. Паступіла прапанова зладзіць конкурс сэлфі, стварыць рубрыкі пра нефармалаў, адмысловую пляцоўку для геймераў, пісаць пра любімых настаўнікаў і таленавітых аднакласнікаў, друкаваць заданні школьных алімпіяд. А яшчэ — падтрымаць ідэю асобнага чытання для хлопчыкаў, скіраваць увагу на прафарыентацыю, дадаць больш вастрыні і жахаў у калонку рэдакцыйнага прывіда Аркашы…

Штосьці з прапаноў супрацоўнікі часопіса ўжо прынялі, і новыя цікавосткі чакаюць «Бярозку» ў 2016 годзе.

Дарэчы, з новага года часопіс падрасце на 16 старонак. Некалькі з іх зойме праект ілюстратара Алесі Галота «Юны мастак», некалькі — апавяданне-пазл, з якога можна будзе сабраць кніжку(!). Чым яшчэ карысным папоўніцца часопіс, даведаемся вельмі хутка.

**Кацярына ЗАХАРЭВІЧ**

# Кніга суровай прозы

Васіля Жуковіча чытачы ведаюць як паэта і дзіцячага пісьменніка. За плячыма гэтага аўтара — больш як сорак гадоў творчай дзейнасці. Зусім нядаўна ў выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет новая кніга Васіля Аляксеевіча — зборнік апавяданняў і аповесцей «Рабінавая ноч». Прэзентацыю выдання падрыхтавалі супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Па словах прафесара Аляксея Рагулі, добра знаёмага з творчасцю В. Жуковіча, у суровай прозе пісьменніка адчуваецца патрэба перадолець штучнасць, празмерную лёгкасць сучаснай літаратуры. Дзякуючы творам В. Жуковіча чытач вяртаецца да зямлі, апынаецца ў родным, блізкім свеце. Мова пісьменніка мае здаровы рытм, а сюжэт большасці твораў адметны псіхалагічнай глыбінёй.

Пра даўняга сябра і яго творчасць распавёў доктар філалагічных навук, загадчык аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Міхась Тычына. Разам з Васілём Аляксеевічам Міхась Аляксандравіч вучыўся ў Брэсцкім педагагічным інстытуце — дарэчы, студэнцкія гады знайшлі адлюстраванне ў аповесці В. Жуковіча «Як адна вясна», персанажамі якой з'яўляюцца аднакурснікі пісьменніка. М. Тычына таксама адзначыў рэалістычнасць прозы Жуковіча, падкрэсліў яго зварот да тэмы Першай сусветнай вайны, апісанай па ўспамінах бацькоў і дзядоў, для якіх пачатак XX стагоддзя быў блізкай гісторыяй.

Дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч звярнула ўвагу на светласць і чысціню прозы Васіля Жуковіча і падкрэсліла, што аўтар жыве тымі прынцыпамі, якія спрадвеку ўласцівыя беларусам.

**Юлія ШПАКОВА**

# Украінскія вершы ў Купалавым доме

Янка Купала найбольш перакладаў з украінскай мовы. Таму нядзіўна, што Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы мае даўняе сяброў-ства з грамадскім аб'яднаннем украінцаў «Запавіт». У Купалавым доме адбыўся літаратурна-музычны вечар, прысвечаны юбілеям вядомых украінскіх паэтаў Ліны Кастэнка і Барыса Алейніка. Творчасць гэтых аўтараў выклікае вялікую цікавасць не толькі ва Украіне, але і ў многіх краінах свету. Па словах вядучай Вольгі Пархімовіч, адметнай рысай творчасці Ліны Кастэнка і Барыса Алейніка стала спалучэнне ўзрушанасці, высокай эмацыянальнасці з выяўленнем вялікай любові да жыцця.

Падчас сустрэчы гучалі вершы на ўкраінскай мове, паэтычныя пераклады на беларускую і рускую мовы. Зацікавіў гасцей музея расповед пра раман у вершах «Маруся Чурай», напісаны Лінай Кастэнка ў 1979 годзе. Удзельнікам вечарыны стаў фальклорны ансамбль тэатра, песні і абрадаў «Ватра» (у перакладзе з украінскай — «Полымя»), які выканаў як народныя песні, так і песні на вершы Барыса Алейніка і Ліны Кастэнка. Мілагучная паэзія і лірычныя спевы нагадалі сябрам «Запавіту» пра любую радзіму, а для іншых наведвальнікаў сталі добрай магчымасцю далучыцца да ўкраінскай культуры.



*Выступае ансамбль «Ватра».*

Часовы павераны Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Валер Джыгун падзякаваў супрацоўнікам музея за выдатны вечар і падкрэсліў значнасць культурных узаемасувязей.

**Юлія ШПАКОВА**

Прэзентацыі

# Аўтограф гімназістам

Добрая традыцыя запрашаць у госці пісьменнікаў склалася ў сталічнай гімназіі № 25. І не дзіва, бо родную мову і літаратуру тут выкладае член Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Шпакевіч. Амаль штомесяц яна радуе сваіх вучняў цікавымі сустрэчамі з майстрамі пяра.

Так, нядаўна тут адбылася прэзентацыя дзіцячай кнігі Яны Явіч «Уцёна хоча ведаць». Пяцікласнікі ўважліва слухалі, задавалі аўтару арыгінальныя пытанні. Кожны меў магчымасць набыць кнігу з аўтографам пісьменніцы.

Было відаць, што вучні вельмі зацікавіліся і кнігай, і аўтарам. Увогуле, цешыць, што дзякуючы жывым гутаркам, сустрэчам з літаратарамі школьнікі чытаюць кнігі.

**Вольга БІРУК**

### Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**20 лістапада** — *на творчую сустрэчу з паэтам і скульптарам Хізры Асадулаевым, якая адбудзецца ў гімназіі № 25 (вул. Чырвонаслабадская, 84). Пачатак у 14.30.*

**22 лістапада** — *на прэзентацыю кнігі прозы Міхася Пазнякова «Хлеб для партызанаў» і паэтычнага зборніка «Вялікай Перамозе верныя», што адбудзецца ў клубе 361-й спецаўтабазы (вул. Куляшова, 1а). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**23 лістапада** — *у літаратурную гасцёўню «Верасок» пры дзіцячай бібліятэцы № 16 (вул. Адзінцова, 85) на творчую сустрэчу з пісьменніцай Янай Явіч. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**23 лістапада** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» пры Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (пр. Незалежнасці, 66а) на творчую сустрэчу з заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь, пісьменнікам Андрэем Душачкіным. Пачатак у 17.30.*

**25 лістапада** — *на конкурс мастацкага чытання твораў Уладзіміра Караткевіча, які адбудзецца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (вул. К. Маркса, 31). Пачатак у 12.45.*

**25 лістапада** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**25 лістапада** — *на літаратурнае свята, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння Канстанціна Сіманава, якое пройдзе ў Цэнтральнай бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**26 лістапада** — *на літаратурнае свята «Адкрыты мікрафон. Прачытай Караткевіча з намі». Імпрэза ладзіцца ў творчым клубе «КЛУмБа» пры Фундаментальнай бібліятэцы Белдзяржуніверсітэта (пр. Незалежнасці, 4, аўд. 217). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**26 лістапада** — *на паэтычнае свята «Збіраю я Радзіму па радках…», у межах якога адбудзецца прэзентацыя кнігі паэзіі Юрыя Фатнева «Сівыя нябёсы». Імпрэза пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**27 лістапада** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 14-й гадзіне.*

Рагнед МАЛАХОЎСКІ



***

*Усцілаецца попелам ноч.*
*Я свабоду паклаў на плаху.*
*Клічу вецер з высокага даху,*
*Дзе пачуюць мяне сотні воч.*

*Супраць нас — і адлегласць, і час.*
*Супраць нас — няшчырыя словы.*
*Калі бурацца свету асновы,*
*Самы час азірнуцца якраз.*

*Хоць крычы тут і хоць не крычы,*
*Безвыходнасць даб'е планету.*
*Вечар плавіцца ў кузні сусвету.*
*Хай жа вострыя будуць мячы!*

*Супраць нас распачнецца вайна.*
*Супраць нас паўстануць нябёсы.*
*Ахвяруем уласныя лёсы.*
*Але ты застанешся адна.*

*Мы стаміліся праўду шукаць,*
*Бы ў размове няшчырай падвохі.*
*Напачатку найноўшай эпохі*
*Бессэнсоўна ужо адступаць.*

*І усцелецца попелам дзень,*
*І павернецца розум крута.*
*Супраць нашых пачуццяў атрута —*
*Безвыходнасці мёртвы прамень.*

*Дагараюць у цемры крыжы,*
*Бы твая і мая незалежнасць.*
*Быццам гэта было непазбежна,*
*Як дэфолт чалавечай душы.*

*Самы момант дажджу заімжыць.*
*У запасе — адна хвіліна.*
*І, здаецца, галосіць краіна.*
*Самы час перадумаць і жыць.*

## Ты бачыў смерць

Аляксею Вайткуну

*Ты бачыў смерць, і смерць табе сказала,*
*Што ў ейным спісе месца больш няма.*
*Ты не паверыў. І яна сканала.*
*І пачалася вечная зіма.*

*Гулі вятры над роднай старанoю.*
*І сэнс жыцця ты між вятроў шукаў.*
*Здалося: і жыццё, і смерць — з табою.*
*І ты ў той момант смерць запаважаў.*

*Калі ўзіраўся ў бездань далягляду,*
*Мінуўшчыны глытаў празрысты пыл,*
*Жыцця прастору ўзнёс, давёў да ладу,*
*Уславіў, не пашкадаваўшы сіл.*

*Ты бачыў смерць. І пажадаў стаць*
*новым.*
*З упэўненасцю крочыць па жыцці.*
*У іншым чалавеку выпадковым*
*Надзейнае апірышча знайсці.*

*Пяро святла кладзецца на далоні…*
*Любая з'ява мае свой працяг.*
*Ты вырашыў: на вечнасці улонні*
*Служыць жыццю. І у імя жыцця.*

*Снягі растануць. Дрэвы на пагоссе*
*Нібыта гоняць прэч любое зло…*
*І смерць больш не з'яўлялася. І штосьці*
*Нязведанае ў сэрцы ажыло.*

## Леапардавыя клёны

З. М. П.

*Заслаўе. Помніш адпачынак дзіўны наш?*
*Там будавала восень туманоў калоны.*
*Ішлі праз ціхі парк і бачылі міраж —*
*Насустрач беглі леапардавыя клёны.*

*І мы, збянтэжаныя, крок ступілі ўбок,*
*І фотаздымак не зрабіць не мелі права.*
*А клёны лісце з долу скручвалі ў клубок*
*Пад пільным позіркам самога Ізяслава.*

*Яны дурэлі — маладыя іх гады.*
*І гэты дзень кляновы быў такі*
*спакусны.*
*У цені клёнаў леапардавых тады*
*Я цалаваў твае распаленыя вусны.*

*Мы не саромеліся выпадковых воч.*
*У шэпце клёнаў чулі мы кахання ноты.*
*Зіхцелі кроны, як паходні усю ноч,*
*Таму не мелі мы прычын для адзіноты.*



Фота Кастуся Дробава.

Уладзімір БАРМУТА



## Ружовыя валошкі

*Калі маленства ўспомню, трошкі*
*прыпамінаецца тады:*
*Цвітуць ружовыя валошкі*
*ў далёкім полі ля вады.*

*Ружовы ветрык іх калыша,*
*пялёсткі падаюць на дол.*
*А наваколл такая ціша*
*І пахне ружамі вакол.*

*Паветра нібы мёдам льецца*
*у гэтай казцы незямной.*
*І сонца ружаю смяецца*
*ў блакітнай вазе нада мной.*

*Цяпер забыты сны і казкі*
*пары шчаслівае тае,*
*змянілі фарбы свае краскі*
*і пахі, шолахі свае.*

## Край зямлі

*Зара над лесам дагарае,*
*заснулі росныя палі.*
*А там, за самым небакраем,*
*ляжыць нябачны край зямлі.*

*Які ён, гэты край далёкі?*
*Ці шмат вядзе дарог туды?*
*Маўчаць ружовыя аблокі,*
*схаваўся месяц залаты.*

*Мо там красуюцца заўсёды*
*вечназялёныя гаі*
*і ружы водзяць карагоды,*
*і не змаўкаюць салаўі?*

*А мо рассыпала пустыня*
*пяскі гарачыя вакол*
*Ці пад халодным ветрам стыне*
*пакрыты вечным снегам дол?*

*І ледзяныя збудавала*
*палацы вечная зіма?*
*…Дарог туды вядзе нямала,*
*ды толькі лёгкае няма.*

## Лёс

*У верасні чаромха зацвіла:*
*З вясны яна падсечана была.*
*Марнела, сохла, а па цёплым леце*
*на ёй успыхнулі духмяныя суквецці.*
*Але над імі пчолы не гулі,*
*бо тыя кветкі горкімі былі.*
*І на пялёстках ранкамі раса*
*блішчэла, нібы цёплая сляза…*

## Першацвет

*Зімы распадуцца аковы*
*пад срэбраны звон ледзяша.*
*На позірк вачэй васількoвы*
*твая адгукнецца душа.*
*Распусціцца промнямі ранне,*
*па-іншаму ўбачыцца свет.*
*І ў сэрцы успыхне каханне,*
*як ранняй вясной першацвет.*

Ганна ПРЫЁМКА



## Мужу

*Час наш сыходзіць.*
*Жыццё праляцела, як лета.*
*Часам зычу сабе і табе,*
*Каб як пазней прыйшла зіма,*

*Каб крыху нам яшчэ*
*Пацешыцца жыццём, расою, кветкамі,*
*Убачыць, як сыходзіць снег*
*І як цвітуць вясной чаромха з бэзам.*

*Час… Ён мяняе і аблічы нашы.*
*Хоць ты цяпер сівы, ды ведаеш і сам:*
*Праз повязі няпростыя гадоў*
*Твой вобраз даражэйшы для мяне.*

## Сынок мой

*Старэю я, сталееш ты.*
*Пакуль жывая, ты заўжды маленькі…*
*Перад іконаю я ўкленчу, памалюся:*
*Хай абароніць Бог цябе ад бед, нягод.*
*Здароўя папрашу на доўгія гады*
*Табе, тваёй сям'і*
*І дачакаюся званка твайго.*
*Ты патэлефануеш:*
*«Усё ў парадку, мама? Добра!*
*Тады бывай, бо мне няма калі…»*
*Я трубку не кладу, хаця ідуць гудкі.*
*На сэрцы светла,*
*А душа спявае…*

***

*Як добра,*
*Калі жывая*
*Твая матуля!*
*Сустрэне, пацалуе,*
*Прылашчыць*
*Шурпатаю рукой,*
*Памоліцца ўначы,*
*Укленчыўшы перад абразам…*
*Наведвайце матуль!*
*Наведвайце, пакуль*
*Яны жывыя,*
*Шануйце, беражыце*
*Ды імі даражыце,*
*Бо толькі маці*
*Зразумее вас*
*Лепш, чым хто-небудзь*
*Цярпліва будзе вас чакаць, праводзіць,*
*Раз-пораз і слязу крадком змахне…*
*Наведвайце матуль,*
*Пакуль яны жывыя!*

***

*Росная траўка*
*Пад сонейкам ззяе,*
*Дзесь за ракою*
*Гармонік іграе.*

*Дзеўкі ўсю ноч*
*Звонка песні спявалі.*
*Пеўні на золку*
*Дадому пагналі…*

*Увесь Божы дзень*
*Дзеўка сее-зжынае.*
*Зноў надвячоркам*
*Гармонік зайграе.*

*Абразкі*



Міхась ПАЗНЯКОЎ

# Старшы лейтэнант

Да адпраўлення цягніка, якім я вяртаўся з творчай камандзіроўкі, заставалася літаральна некалькі хвілін. Насупраць мяне ў купэ сядзеў светлавалосы хлопец гадоў дваццаці пяці, з якім мы паспелі пазнаёміцца і перакінуцца некалькімі дзяжурнымі фразамі. Валянцін, так звалі майго спадарожніка, ехаў да самага Мінска. Я ўзрадаваўся, палічыўшы, што нас у купэ будзе толькі двое і мне ўдасца пасля двух мітуслівых дзён адпачыць у дарозе, паразважаць у цішыні, калі не браць пад увагу перастук колаў, і нават зрабіць якія-небудзь паэтычныя накіды.

Ды літаральна за хвіліну да адпраўлення да нас далучыліся два маладыя афіцэры — старшыя лейтэнанты. Адзін з іх быў вельмі разгаворлівы, нават крыху дакучлівы. Адразу ж пасля хуткага знаёмства ён пачаў настойліва прапаноўваць піва. Яго не адразу, але ўсё ж такі падтрымаў Валянцін. Калі скончыўся пеністы напітак, яны неўзабаве, не сустрэўшы падтрымкі з нашага боку, накіраваліся ўдвух у вагон-рэстаран па дабаўку. Другі афіцэр, якога звалі Андрэй, нарэз адмовіўся не толькі ад рэстарана, але і ад піва ў купэ. З удумлівым сімпатычным тварам і сур'ёзнымі, разумнымі вачыма амаль васількавага колеру ён узіраўся ў краявіды за акном і пра нешта засяроджана думаў. Затым, выпіўшы чаю з пячэннем, дастаў з верхняй полкі тоўстую кніжку ў бардовым пераплёце, на карашку якой я прачытаў: «Практычная псіхалогія».

Ужо з першых хвілін я адчуў да гэтага маладога чалавека сімпатыю і цікаўнасць. Нават у глыбіні душы парадаваўся і за яго бацькоў, і за тых салдат, якія служаць у яго падраздзяленні.

Мабыць, заўважыўшы ў маіх вачах непрыхаваную павагу да яго, старшы лейтэнант раптам падзяліўся:

— Век жыві — век вучыся, як любіў прамаўляць мой дзядуля, — а дурнем памрэш...

— Ну, калі ў чарку не зазіраеце ды такія сур'ёзныя кнігі штудзіруеце, то апошняе вам не пагражае, — усміхнуўся я ў адказ.

— Дык часам жа і не ўсё ад цябе залежыць. Можна ў нашым складаным і хуткасным жыцці чагосьці і не разгледзець своечасова, не зразумець, не разабрацца ў нечым...

— Колькі гадоў служыце ў арміі? — пацікавіўся я.

— Ды ўжо тры гады амаль.

— І часта даводзіцца развязваць псіхалагічныя вузлы?

— Даводзіцца... І калі б толькі развязваць, як вы кажаце, гэтыя псіхалагічныя вузлы... Надарaецца, на вялікі жаль, і больш складанае. Дакладней, было — здарылася нядаўна...

Афіцэр на некалькі хвілін замоўк, паглыбіўся ў свае думкі, зноў узіраючыся ў акно. Я не спяшаўся ўрываца ў яго развагі, адчуваючы, што Андрэй, калі гэта патрэбна, сам падзеліцца набалелым. І праз нейкі момант ён прадоўжыў:

— Усё ніяк не магу даравацъ сабе, хоць і не вінаваты, па вялікім рахунку...

Я зразумеў: малады афіцэр моцна перажывае з-за нечага, што адбылося на вайсковай службе. Так яно і было.

— Служыў у маёй роце радавы Кудзелін, — працягваў Андрэй. — Добры, кемлівы хлопец, родам з вёскі. Працавіты, дысцыплінаваны. Маці адна яго выхоўвала. Бацьку ён у дзяцінстве толькі і бачыў. Як паехаў той на заробкі ў суседнюю Польшчу, так і згубіўся недзе на еўрапейскіх прасторах. Сям'і без весткі і падтрымкі як хочаш думай: ці то прапаў, ці то збег... Але ім усё роўна ніколькі не лягчэй ад гэтага.

А перад самым здарэннем маці, надта чуллівая жанчына, прыязджала да яго. Заўважна было, што моцна прырасла да сына. Пасля яе ад'езду — як падмянілі салдата. Прыціх, вочы змрочныя, вялы нейкі стаў, разгублены. Замкнуўся ў сабе... Пра такіх часам гаворацъ: спяць на хаду... Я паспрабаваў падступіцца да яго, распытацъ, у чым справа, што здарылася, але ён толькі вочы апусціў, нічога не адказаў... Дакладней, не змог я падабраць да яго ключык душэўнасці, даверу... Не здолеў, разумееце, на шчырасць выклікаць, разгаварыць яго... Па праўдзе кажучы, я спадзяваўся пазней неяк выбраць зручны момант, пагаварыць з ім адзін на адзін у больш спрыяльных абставінах... Не паспеў...

Праз некаторы час у нашай роце здарылася ЧП. Знік радавы Кудзелін. Адсутнасць яго зафіксавалі ў 18.30. Дзяжурны афіцэр палічыў, што той падаўся ў самаволку, так і запісаў. Калі раніцай я заступіў на дзяжурства і даведаўся пра зніненне Кудзеліна, то не паверыў у зафіксаваную версію. Адразу ж аб'явілі пошук. Абшылі ўсю тэрыторыю часці. З першага заходу яго не знайшлі. Ніякіх слядоў. Толькі крыху пазней, між маладых ялінак, заўважылі мы нашага салдата... у лужыне крыві. У кішэні быў складзены ўдвая лісток, а на ім — некалькі жахлівых слоў. Я пазнаў яго почырк: «Даруйце, болей не хачу жыць. Бывайце». У другой кішэні — кароткае пісьмо без канверта, ад дзяўчыны: «Кудзелін, службы спакойна. Мне больш не пішы. Я пакахала іншага і выходжу замуж. Даруй і зразумей, што я проста сябравала з табой». І подпіс, імя дзяўчыны той. Пісьмо гэта, аказваецца, маці яму перадала, калі прыязджала ў часць. Відаць, не ўлічыла, што для яго ўражлівай і ранімай душы гэты ўдар можа быць ракавым...

Толькі пасля няшчаснага здарэння я зразумеў, што ён паслухмянасцю, працай і чытаннем кніг імкнуўся заглушыць свае глыбокія перажыванні. Другой здрады, пэўна, не менш дарагога за бацьку чалавека, ён пераадолець не змог...

Урачы ўстанавілі, што смерць наступіла прыкладна ў тры гадзіны ночы... Калі б дзяжурны афіцэр, а гэта быў капітан Званароў, своечасова падняў трывогу і адразу арганізаваў пошук, Кудзеліна маглі б выратаваць. Капітан такім чынам парушыў статут і фармальна вінаваты ў гібелі салдата. Палічыў, што радавы Кудзелін у самаволцы і раніцай вернецца...

— А як маці? — глыбока ўздыхнуў я.

— У той дзень прыехала... Як яна гаасіла, прытомнасць некалькі разоў губляла... Адзіны сын. Ён жа і мухі не пакрыўдзіў, клапатлівы, уважлівы быў... Ад'язджаючы, маці чамусьці крыўдавала на мяне, маўляў, не збярог яе крывіначку. І чаму менавіта на мяне? Магчыма, таму што ў той яе прыезд я дзяжурыў і размаўляў з ёю?.. А мне ж тады ні слова не сказала пра непрыемную вестку ад каханай дзяўчыны... Пасаромелася, мабыць, пра асабістае казаць. Самой, пэўна, не ўдалося сына супакоіць, пераканаць, каб не браў блізка да сэрца... Вось і паспрабуй разабрыся — як яно лепей...

— А што з капітанам Званаровым?

— Капітан, вядома, атрымаў спагнанне... Камісія доўга працавала... Але і я сам усё ніяк не магу пазбавіцца ад пачуцця вінаватасці, няхай і ўскоснай, але відавочнай: бачыў жа, разумеў, што радавы Кудзелін пакутуе, перажывае, а бяссільны аказаўся разгадаць яго боль, прачытаць душу, дапамагчы яму разабрацца з горкай праблемай, прадухіліць непапраўнае... Вось і чытаю, шукаю адказы на няпростыя пытанні ў спецыяльных кнігах... Я, вядома, разумею, што не ўсё ад мяне залежыць. Час надта жорсткі, абыякавы настаў. Грубасць, матэрыяльная выгада, чэрствасць авалодваюць людзьмі... І паўсюль, куды ні зірні... Нібыта зрушылася штосьці важнае, святое, галоўнае... А толькі ж міласэрнасцю, павагай, клопатам, любоўю чалавек творыць, умацоўвае і сябе, і тых, хто побач...

У купэ вярнуліся нашы бесклапотныя, шумныя спадарожнікі, і Андрэй заглыбіўся ў кнігу.

Я сядзеў у кутку, прытуліўшыся да сцяны і заплюшчыўшы вочы. Мне таксама не хацелася пустой балбатні. Ды і яны, адчуўшы гэта, хутка ўлегліся спаць. Я ж так і не заснуў, баючыся прапусціць той момант, калі на сярэдзіне дарогі будуць выходзіць старшыя лейтэнанты. Развітваючыся з Андрэем, я па-бацькоўску цёпла ўсміхнуўся яму і на некалькі імгненняў затрымаў яго руку ў сваёй: удачы табе, старшы лейтэнант!

# У маладыя гады

Неяк славуты рускі празаік Уладзімір Крупін, з якім мы пасябравалі з першай сустрэчы ў Мінску, расказаў мне з усмешкай наступнае. Першая сур'ёзная публікацыя ў яго з'явілася ў далёкія маладыя гады ў часопісе «Юность». Безумоўна, надрукавацца ў знакамітым часопісе, дзе галоўным рэдактарам быў выдатны Андрэй Дзяменцьеў, — вялікае творчае шчасце. Малады аўтар лётаў на крылах уяўнай славы.

Яшчэ невядомы і не пазнавальны ў твар, едучы ў Волагдзе гарадскім аўтобусам, пісьменнік прыкмеціў, як маладая дзяўчына якраз чытала ў «Юности» яго невялічкую аповесць. З вялікім хваляваннем і не меншай радасцю прысеў побач з чытачкай, час ад часу замілавана пазіраючы на яе занятак. Потым, сабраўшыся з духам, поўны асалоднага задавальнення і нават прадчування славы, прамовіў дзяўчыне:

— Гэта я напісаў!..

Тая абуральна адрэзала:

— Ідзі лепш дамоў і праспіся!

Уладзімір моўчкі пасунуўся на выхад.

Не памылюся, калі выкажу меркаванне, што падобнае здаралася з многімі маладымі літаратарамі. Прыпамінаю і я некалькі выпадкаў такога кшталту. Адзін з іх і ўвогуле супадае з расказаным Крупіным, толькі публікацыя была ў мяне ў газеце «Чырвоная змена». Памятаю, і як у сталічнай кнігарні «Светач», куды я зазірнуў, стаў сведкам такой карціны: дзяўчынка гадоў васьмі трымала ў руках маю кніжку і прасіла маці купіць яе. На вокладцы была намаляваная дзяўчынка з букетам рамонкаў.

— Яна ж на беларускай мове, — адгаворвала маці.

Але дачушка не здавалася. Я падтрымаў яе, сказаўшы маці, што гэту кніжку я напісаў і дам аўтограф.

Зірнуўшы недаверальна на мяне як на дзівака, жанчына ўзяла кнігу і паспяшалася да касы. Нібы прысаромлены, я падаўся ў іншы бок.

Згадваецца і адваротнае. У парку імя М. Горкага ў Мінску праводзілася літаратурнае свята з выстаўкай-продажам кніг, з удзелам пісьменнікаў. Прадаўшчыца заклікала наведвальнікаў набываць кнігі прысутных аўтараў і браць у іх аўтограф. Яна гучна пералічвала прозвішчы і падымала з прылаўка кнігі, дэманструючы прысутным. Калі ў яе руках апынулася мая кніжка, да прадаўшчыцы падышла бабуля з унучкай:

— Ой, а ў нас такая кніга ёсць дома. Мы з унучкай чытаем яе з вялікім задавальненнем. Але вазьму яшчэ адну дзеля аўтографа.

Яна купіла кніжку і памкнулася да самага старэйшага пісьменніка. Але той разам з прадаўшчыцай паказалі на мяне.

— Такі малады аўтар, — збянтэжылася-здзівілася бабуля. — А я ж думала, што яе напісаў дзядуля...

Я з прыемнай усмешкай пакінуў аўтограф і падзякаваў бабулі і яе ўнучцы за высокую ацэнку маёй кнігі.

# Клён

Ён стаяў у канцы нашага невялікага саду, збоку, каля самай агароджы, якая абступала сядзібу. Высокі, стройны, прыгожы, клён прыкметна вылучаўся сярод іншых дрэў, што раслі ўздоўж саду. Адразу за клёнам пачыналіся «глінкі» — старыя і свежыя яміны, з якіх вяскоўцы капалі гліну. За «глінкамі» ішла палявая дарога. Цягнулася яна паўз агароды. У вёсцы чамусьці ўсе называлі яе «сценкай». Гэтай дарогай кожнае лета, жывучы ўжо ў горадзе, я крочыў да бацькоўскай хаты. Яшчэ здалёку распазнаваў густую вершаліну клёна. Цёплая пяшчота аблівала сэрца: хутка я пералезу праз агароджу, прайду ціхім спелым садам, буду дыхаць сакавітым пахам медуніц і кропу, а затым увайду ў родную хату, светлую, прапахлую свежым хлебам.

На ўсё жыццё запомніўся мне гэты клён. Менавіта на яго раней, чым на іншыя дрэвы, садзіліся вясною шпакі і пачыналі высвістваць свае радасныя песні навасёлаў. Калі з палёў і агародаў сыходзіў снег і на ўзмежках з'яўлялася зялёная траўка, мы, вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі, ладзілі каля яго свае гульні. Кожны лічыў за гонар залезці на самую вершаліну клёна і заспяваць: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...» А крыху пазней, у маі, калі з'яўляліся хрушчы, мы трэслі кляновае голле ўвечары або ранкам, стараючыся адзін перад адным сабраць больш сонных жукоў.

Вельмі захапляў нас клён восенню, якая шчодра аблівала яго яркай пазалотай. Прыбяжыш да клёна, а пад ім такі святлісты дыван — вачэй не адарваць.

Многія ў вёсцы, калі пяклі хлеб, бралі лісце з нашага клёна, каб усла́ць ім спод печы. А яно заўсёды было шырокае, чыстае, нейкае святочнае. Штовосень мы акуратна засушвалі лісты і потым усю зіму хату ўпрыгожвалі кляновыя букеты.

Памятаю і вельмі прыкрае. Тады я вучыўся ў другім класе. Была вясна. Сакавік. Мне чамусьці захацелася паспытаць свежага кляновага соку. Прыхапіўшы бацькаву сякеру і трохлітровы слоік, я пайшоў да нашага клёна. Надсек у адным месцы, але сок не капаў, а сцякаў па ствале. Надсек у другім месцы, атрымалася лепей, падставіў слоік. Пайшоў у хату. Чакаю, пакуль набяжыць хоць трохі соку. Ды тут бацька прыйшоў з працы. Гляджу і вачам сваім не веру: нясе ў руках мой пусты слоік. Сэрца ў мяне як абарвалася. Дасталася мне тады на арэхі... Цэлую гадзіну стаяў, прывязаны бацькам да клёна: «піў сок»...

Замазаў тата раны на ствале клёна, але доўга яны не зажывалі. Плакала дрэва...

Праз год зноў нехта надсек клён. Не шанцавала дрэву і пасля. Некалькі разоў ранілі яго, нібы некаму замінала яго гордае і шчырае характво. І кожны раз я адчуваў сябе вінаватым, быццам гэта я надсякаў клён.

А мінулай восенню яго не стала — паваліла бура. Налецела на вёску, паваліла платы, сарвала некалькі чарапічных дахаў, загубіла наш клён.

Прыехаўшы летам у водпуск, я не пазнаў здалёку бацькавай сядзібы. У шэрагу высозных дрэў, якія абступілі сад, віднеўся прагал, адсутнічала штосьці адметнае, дарагое. Стала вельмі балюча. Зразумеў, што тады, у дзяцінстве, я зрабіў зарубкі не на кляновым, а на сваім целе, і яны пякуць цягучым, несціханым болем.

# Спроба спыніць час

**Вось ужо 23 гады няма яго з намі. Праз шэсць гадоў пасля яго скону сышла ў лепшы свет і яго верная і надзейная сяброўка — жонка Ганна Міхайлаўна Скрыган, якая падзяліла з бацькам цяжкія гады выгнання.**

Чым далей ад мяне апошні бацькаў уздых, тым большая патрэба перагартаць старонкі яго жыцця, поўнага нечаканых рызыкоўных паваротаў, якіх хапіла б не на адно жыццё. Пазней бацька пра гэта скажа ў «Кругах»:

*«Цяпер я гляджу на сваю дарогу як на далёкі сон. Мая біяграфія здаецца мне вельмі доўгаю, і я дзіўлюся, як шмат у ёй месціцца. Я пазнаў і трагізм, і роспач, зведаў кошт радасці і надзеі: быў на грані таго горкага адчування, калі чалавек застаецца без радзімы — не мае на яе права, і зразумеў, якое гэта вялікае і дарагое пачуццё — Бацькаўшчына.*

*Лёс кожнага — гэта свой лёс, але без лёсу народа няма і свайго лёсу».*

Гэтыя словы тата скажа пасля страшэнных выпрабаванняў, душэўных катастроф і ўзрушэнняў, калі ў адно імгненне абрываецца сувязь часоў і зруйнаваныя надзеі ставяць кропку незваротнасці.

Першы такі страшны разлом, які падзяліў жыццё на «да» і «пасля», здарыўся ў помным 1936 годзе. Мяркую, вытрымаць катастрофу дапамагла бацьку светлая, бясконцая любоў да жонкі — прыгожай, разумнай жанчыны. Узмацняла гэтую любоў яшчэ і тое, што яна насіла пад сэрцам дзіця. Так трагічна склалася жыццё, што бацька ніколі больш не ўбачыў, як ніколі не бачыў сына Усевалада. Праз гады бацька напіша:

*«Восень 1972 года. Масква. Площадь Восстания. Галантарэйны магазін. У дзвярах насустрач жанчына ў стракатым лёгкім паліто свабоднага крою. Мяне сцепанула: якраз гэткае паліто некалі я купляў Ліне.*

*Якое гэта дзіва — выпадак.*

*Нечаканасць — імгненне. Паўтара года шлюбу, а памяць на ўсё жыццё».*

У пачатку вайны нейкай «галубінай» поштай да таты дайшлі звесткі, што ў дом, дзе жыла яго сям'я, трапіла бомба, і Галіна з маленькім Севачкам загінулі.

Што ўратавала тату ад маральнага зрыву? Пэўна, незвычайная сіла духу. А яшчэ — выпрацаваная здольнасць не губляцца ў крытычныя моманты.

Потым — жыццё зняволенага, па поўнай дзесяцігадовай праграме.

Аднак час незалежна ад нас працягвае сваю раўнаважную, мерную хаду, якая аддаляе адзін жыццёвы эпізод і набліжае іншы. Так у бацькі ўзнікае новая надзея на чалавечае шчасце. Гэтай жанчыне, якая, па ягоных словах, вярнула яму жыццё, суджана было стаць вернай памочніцай, музай і адданай жонкай да канца яго зямных дзён. Ёй бацька прысвяціў шмат пранікнёных радкоў, дзе называў толькі Ганначкаю.

Паступова акрыяўшы, па сутнасці, пачаўшы ўсё з нуля, бацька з другой сваёй сям'ёй атаймаваўся на сланца-хімічным камбінаце ў эстонскім горадзеКівіылі.

У адну з начэй 1949 года ён прысніў знаёмую сякерку: першы раз яна з'явілася яму напярэдадні арышту ў 1936-м, гатовая вось-вось зваліцца на галаву. Наступную ноч бацька дома не начаваў.

Што гэта? Папярэджанне звыш?.. Па фатальным збегу акалічнасцей сітуацыя паўтарылася з разбежкай у 10 гадоў. Да апошняй хвіліны жыцця бацька захаваў у памяці момант, калі лёс прыпаднёс гэткую «неспадзяванку»: «Вось так скончылася маё гасцяванне ў Эстоніі. Яшчэ добра, чэкіст згадзіўся пайсці са мною дадому, каб я мог пераапрануцца адпаведна таму, дзе цяпер мне давядзецца быць. Дома быў Ажэка (мой зводны брат па маці. — **Г. С.**), я папрасіў яго збегаць на работу да мамы і сказаць, каб яна скоранька ішла дадому. Вядома, яна тут жа прыбегла... Калі я выходзіў з дому, скрозь слёзы яна сказала: "памятай, дзе б ты ні быў, я да цябе прыеду"».

*Бацька — разважлівы, марудлівы, заўсёды вонкава спакойны, гаварыў не спяшаючыся, без лішніх слоў. Маці — хуткая, нецярплівая, не трывала ніякіх даўжэзнасцей, гаварыла хутка, выразна, пісьменна выбудоўваючы фразы, без слоў-паразітаў. Дзіўна, але пры ўсіх вонкавых і ўнутраных супярэчнасцях хатні лад быў спакойны і ўраўнаважаны.*

Праз гады, толькі напрыканцы жыцця, тата напіша, згадваючы цяжкія моманты расстання з сям'ёй: «*Адзінокі, доўгі, нікім не рушаны мой час. І мае ўспаміны. Я адзін, але ва ўспамінах усё да кропелькі са мною. Увесь мой далёкі дом. Час. Сям'я. Божа, другая сям'я, але гэтакая ж як і першая — разлучаная.*

*Як жа так? Што ж гэта за праклён такі, што сям'і мне мець не суджана?*

*І ўсё ж не разлучаюся з ёю ў сваіх успамінах. У сваіх думках... Вось ужо і вечар прайшоў, я пішу ім пісьмо. Гэта таксама шчасце, калі хоць ёсць каму пісаць пісьмы*».

Гаворачы пра тату, я, вядома, успамінаю сваю маму, якая раздзяліла з ім пакутніцкія гады выгнання. За ўсім дабрабытам нашай сям'і стаіць незвычайная і выдатная асоба маёй маці. У яе да сустрэчы з бацькам ужо быў свой досыць складаны адрэзак жыцця (пра гэта часткова распавядаецца ў «Наталлі»). Гэта якраз той тып жанчыны, што «коня на скаку остановит, в горящую избу войдет». Маці і бацька былі поўнай супрацьлегласцю, «лёд і полымя». Бацька — разважлівы, марудлівы, заўсёды вонкава спакойны, гаварыў не спяшаючыся, без лішніх слоў. Маці — хуткая, нецярплівая, не трывала ніякіх даўжэзнасцей, гаварыла хутка, выразна, пісьменна выбудоўваючы фразы, без слоў-паразітаў. Дзіўна, але пры ўсіх вонкавых і ўнутраных супярэчнасцях хатні лад быў спакойны і ўраўнаважаны.

Бацька хадзіў павольна, размерана. Маці — хутка, імкліва. Таму яны амаль ніколі не хадзілі на шпацыры разам. Для бацькі ж штодзённыя мацыёны былі святой справай. Прычым маршруты заўсёды былі розныя. Асабліва да душы яму былі праходкі ў аблюбаваным пісьменніцкай супольнасцю Доме творчасці «Каралішчавічы». Нярэдкімі гасцямі там былі дзеці пісьменнікаў, у тым ліку і я. Для мяне шпацыры з татам па лясных сцежках-дарожках заўсёды ператвараліся ў займальную экскурсію. Тата распавядаў пра тое, якое дрэва цвёрдай пароды, а якое — мяккай і ў залежнасці ад гэтага для якіх мэт можна выкарыстаць яго драўніну. Увосень любіў збіраць апалае лісце, любавацца яго непаўторнай прыгажосцю. У нашай хатняй бібліятэцы часта можна было, раскрыўшы кнігу, убачыць засушаны лісток. А яшчэ я слухала непаўторныя лясныя канцэрты — то тата паўтараў спевы птушак, то птушкі яму адказвалі. Аднойчы ён мяне навучыў імітаваць крык савы. Для гэтага трэба пераплесці далоні рук так, каб усярэдзіне ўтварыўся рэзанатар, і дзьмуць у яго пэўным чынам. Крык атрымліваецца — не адрозніш ад арыгінала.



*1970-я гг.*

***

Калі тата змог вярнуцца на радзіму, яму ішоў пяцідзясяты год. Лепшыя з іх — 19 гадоў — згубленыя. Але лёс наканаваў яму пражыць яшчэ амаль 37, аднавіць актыўную творчасць, увайсці ў пасляваенны літаратурны працэс.

Пасля смерці таты (18 верасня 1992 года), працуючы над архіўнымі матэрыяламі (разбор папер, накідаў, запісак, філасофскіх сентэнцый і высноў, дадумак, маргіналій, недрукаваных апавяданняў, дзённікаў), я прыйшла да перакання, што недрукаваныя апавяданні трэба надрукаваць; усе дадумкі, накіды, маргіналіі трэба сістэматызаваць і таксама надрукаваць; дзённікі — сапраўдны летапіс часу — трэба з рукапісу прывесці ў чытэльны выгляд і выпусціць асобнай кнігай. Так з'явіліся пасмяротныя выданні «Кнігазбору»: успаміны пра Яна Скрыгана, серыйны аднатомнік выбранага, дзённікі «Сэрцу горкая далячынь», літаратурныя партрэты «Добра, што я іх ведаў».

Хачу сказаць, што вельмі чакаў выдання дзённікаў Усевалад — сын, які бацьку ніколі не бачыў.

Часам (хоць і не так часта, як хацелася б) здараюцца цуды. Такі цуд падарыў тату лёс у 1963 годзе — ліст з Заходняй Германіі. У канверце была фатаграфія сімпатычнага маладога чалавека з задуменным тварам. На адвароце надпіс: «Дарагому бацьку ад сына Усевалада. 27.07.1963 г.».

Так высветлілася, што сын Сева і яго маці Галіна жывыя. Прайшоўшы ўсе кругі пекла, яны апынуліся ў Германіі.

У 1960-я паміж нашымі сем'ямі завязалася кранальная перапіска. Паступовы стрыманы тон першых лістоў саступаў месца шчырасці і даверлівасці. З лістоў Севы (на канвертах ён падпісваўся Эвалд — на нямецкі манер) мы з адноснай рэгулярнасцю ўведвалі падрабязнасці жыцця гэтай далёкай і блізкай нам сям'і. Шчыра цешыліся, калі даведаліся пра шлюб Севы, пра нараджэнне дачок. Некаторыя лісты прыносілі журботныя весткі: смерць мамы, праз некаторы час — бабулі. Так неўпрыкметку нашая сям'я міжволі рабілася для Севы тым далёкім астраўком, куды магла прыляцець яго душа ў цяжкія і светлыя хвіліны жыцця. Можна было толькі здагадвацца, як скаланалася душа бацькі, якому так і не наканавана было сустрэцца з сынам. Мне, калі можна так сказаць, пашчасціла... Пашчасціла працягнуць ніточку, якая вяла ад бацькі да сына. Мы з Севам бачыліся, калі я прыязджала ў г. Дуйсбург у 2007 і 2012 гадах. Нашы сустрэчы былі вельмі цёплыя.

1 ліпеня 2013 года я бачыла Севу апошні раз — на ягоным пахаванні. Спадзяюся, што бацька з сынам нарэшце сустрэліся... Прыгадаю апошнія радкі з відэаліста Севы да 100-годдзя таты: «Ну што, мой тэрмін таксама канчаецца. Значыць, узрастае магчымасць, што мы ўсё-такі хутка ўбачымся ў нейкім іншым свеце. Трэба верыць...».

***

У працэсе работы над дзённікам бацькі паволі, паступова выспявала задумка пра неабходнасць выдання наступнай кнігі — кнігі творчых партрэтаў пад назвай «Добра, што я іх ведаў».

Вандруючы па старонках дзённікаў, я міжволі лавіла сябе на думцы: колькі ж хваляванняў, перажыванняў, пакут, нават адчаю папярэднічалі канчатковай кропачцы ў кожным апавяданні! Апавяданні пра чалавека, з якім тата знаўся, добра яго ведаў, а то і сябраваў, з якім яго звязвалі творчыя і чалавечыя стасункі. Гэты намер — звярнуцца да жанру ўспамінаў пра людзей, з якімі пашчасціла знацца ў розныя перыяды жыцця, — узнік у таты, калі ён вярнуўся пасля рэабілітацыі ў Мінск. Ён адчуў, што пакаленне пісьменнікаў, цэлая плеяда найталенавіцейшых майстроў мастацкага слова, якіх расстралялі, закатавалі ў турэмных камерах, якія загінулі ў Сібіры, прапалі без вестак, а тыя, хто цудам, выпадкова засталіся жывымі, забытыя. І вось на старонках кнігі «Добра, што я іх ведаў» ажываюць час, падзеі, людзі, імёны — Платон Галавач, Уладзімір Хадыка, Васіль Каваль, Юлі Таўбін, Паўлюк Шукайла, Цішка Гартны, Мікола Нікановіч, Лукаш Калюга, Алесь Гародня, Сымон Баранавых... Гэта толькі частка тых, хто назаўсёды засталіся маладымі.

***

Мой бацька, які сапраўды прайшоў усе кругі пекла, не страціў цудоўнай здольнасці любавацца красою наваколля, наогул да апошняга ўздыху не страціў здольнасці захапляцца жыццём. Не страціў веру ў перавагу розуму і справядлівасці на зямлі, у чалавечую дабрыню. Праз гады ў «Аповесці з адступленнямі» ён напіша:

*«Даволі доўгі час я не займаўся літаратурай. Я пабываў у Сібіры, Узбекістане, Эстоніі, бачыў розныя землі і гарады.*

*І ўсюды на сваім шляху сустракаў добрых і благіх людзей. Найбольш добрых, і найбольш гэта помніш, бо на добрым вучышся сам. Я маю на ўвазе не якую дабрачыннасць, а чуласць, сумленнасць і праўду, няхай сабе жорсткую, чалавечыя ўчынкі.*

*А благія — гэта як памылкі друку».*

16 лістапада 2015 года споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Яна Скрыгана. Прысвячаю гэты сціплы аповед светлай памяці майго бацькі.



*З дачкой Галяй. Эстонія,Ківіылі. 1949 год.*

**Галіна СКРЫГАН,**
**фота з архіва аўтара**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# «Я працую Макаёнкам!»

**Аляксей ДУДАРАЎ, драматург:**

— Калі б мне сказалі: «Вызначы Макаёнка як пісьменніка, грамадзяніна, мужчыну адным словам» — я б адказаў: драматург. Зірніце на яго партрэт: чалавек усяго толькі фатаграфуецца, але гэта ўжо тэатр. Ён жыў тэатрам!

Збіраючыся на гэтую вечарыну і павязваючы гальштук, я згадаў, як упершыню ўбачыў Андэя Ягоравіча. Ён прыйшоў на сустрэчу да нас, студэнтаў тэатральна-мастацкага інстытута. І на нейкае пытанне Макаёнак адказаў: «так заведзена». «Вось гальштук. Ну нашто ён мне? Па-першае, яго трэба вучыцца завязваць. Па-другое, насіць. Але так заведзена…» Я слухаў яго, адкрыўшы рот. Нават асмеліўся запытацца, якую сваю п'есу ён лічыць самай лепшай. «Ведаеш што, — сказаў ён, — творы — як дзеці: чым горшыя, тым лепшыя». Так і не назваў ні «Трыбунал», ні «Зацюканы апостал», хоць менавіта гэтага я і чакаў.

Мая першая п'еса «Парог» друкавалася ў часопісе «Современная драматургия». Па прадмову да яе звярнуліся да Андрэя Макаёнка. Але тэксту ўсё не было і не было.

Тэлефаную. Тлумачу, вось, малады драматург Аляксей Дудараў… Ён тут жа кажа: «Я нічога не напісаў, але прыязджай!» І я пайшоў да яго. Як цяпер помню, гэта было перад Новым годам, 27 снежня. Заходжу, а яны з Іванам Пятровічам Шамякіным збіраюцца вячэраць. І Макаёнак, проста перада мной, кажа: «Во, Ваня, ты разумееш, такую п'есу напісаў — я пазайздросціў!». Я ледзь не абамлеў.

Ён быў адкрыты, любіў жарты, любіў людзей, быў нервовы і выбухны (нехта нават клікаў яго цыганом). Словам, таму, хто быў з ім знаёмы, пашчасціла.

**Таццяна ШАМЯКІНА, доктар філалагічных навук, прафесар:**



— Пасля заўчаснай смерці Андрэя Ягоравіча Іван Шамякін напісаў аповесць пра сябра пад назвай «Тайна драмы». Аповесць надзвычай праўдзівая, можна нават сказаць — дакументальная. Назву Шамякін даў, маючы на ўвазе апошнія гады жыцця Андрэя Ягоравіча, яго сітуацыю ў сям'і і таго чалавека, што знаходзіўся пры Макаёнку апошнім часам і якога сябры, у тым ліку Іван Пятровіч, Навуменкі, лічылі вінным у смерці драматурга.

І ўсё ж я мяркую, што на ўвазе маецца не толькі асабістая драма, але і самая натура Андрэя Ягоравіча. Гэта была надзвычай багатая натура — але на супярэчнасцях.

У чым супярэчнасці? Прыкладам, у яго так званай ляноце. Ён часта сустракаўся з людзьмі, выдаваў часопіс «Нёман», сустракаўся з чытачамі, пастаянна бываў у тэатрах, выдавецтвах, шмат падарожнічаў — і не любіў пісаць. Мог не пісаць год, і яго не цягнула да стала. А затым садзіўся і за два, а то і адзін тыдзень пісаў п'есу. Таму і называў сябе гультаём.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Дачка драматурга Ала Гаўрыловіч.*

Скажу банальнасць, але таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Макаёнак маляваў, выразаў з дрэва (сам рабіў мэблю на лецішчы) і быў выдатным акцёрам. Калі яго п'есы пайшлі ў Маскве, ён пасябраваў з многімі акцёрамі і затым паказваў нам, як яны рухаюцца, як падаюць рэплікі. Асабліва захапляўся Андрэем Міронавым. І, ведаеце, у асобе Макаёнка за Міронавым назіраць было нават цікавей, чым за ім самім.

Цягам амаль трох дзесяцігоддзяў ён прыходзіў да нас ці не кожны дзень. І вельмі многа яны з бацькам гаварылі пра палітыку. Вельмі любіў Андрэй Ягоравіч палітычныя анекдоты. Ён мне казаў: «Усе гэтыя анекдоты прыдумлялі і прыдумляюць у спецыяльных замежных цэнтрах, дзе вывучаюць менталітэт і псіхалогію савецкага народа». Я не верыла. А праз пятнаццаць гадоў пасля смерці Андрэя Ягоравіча прачытала пра гэтыя інстытуты ў замежных даследчыкаў — то бок, у тых, хто гэтым непасрэдна займаўся… Ужо тады нашыя пісьменнікі ведалі многае.

Яшчэ што цікава: вельмі любілі Шамякін і Макаёнак разыгрываць сваіх калег, асабліва пад Новы год і на 1 красавіка. Сядзелі, прыдумлялі… Частай ахвярай іх быў Аляксей Кулакоўскі. Калі розыгрыш тэлефонны, заўсёды гаварыў Макаёнак — рознымі галасамі, і яго зусім не пазнавалі. Самы ж вядомы розыгрыш, што ўжо ўвайшоў у аналы, — калі Лынькоў прывёз маску каўказца і Макаёнак цэлы дзень бадзяўся ў ёй па рэдакцыях: заключаў дамовы, прадстаўляўся грузінскім пісьменнікам, і раскрылі яго толькі некалькі чалавек.

**Генадзь АЎСЯННІКАЎ, акцёр Купалаўскага тэатра, народны артыст:**

— Мне як нікому з нашага тэатра пашанцавала ў тым, што я іграў ва ўсіх п'есах Андрэя Ягоравіча, акрамя першай — «На досвітку» — і апошняй — «Дыхайце эканомна». А ў «Лявонісе на арбіце» я быў ажно чацвёрты Максім: спектакль карыстаўся шалёным поспехам, ішоў у кожным калгасе, на самай маленечкай сцэне. Давялося таксама рэпеціраваць п'есу «Каб людзі не журыліся», а вось на сцэне так і не сыграў: п'есу надрукавалі ў ФРГ, і ў нас яна паспела прайсці разы тры-чатыры.

Макаёнак настолькі артыстычна чытаў свае п'есы, што адразу выдаваў характар, і дастаткова было проста скапіраваць Андрэя Ягоравіча, каб ухапіць сутнасць ролі.

Асабістае знаёмства з ім пачалося, канечне, з «Трыбунала». І заўвагі яго заўжды былі трапныя. Прыкладам, неяк раз падзывае мяне, кажа, усё добра, але… «Вось што. Па тэксце так ідзе: «Гэтая ж зямля наскрозь прапахла ад людскога поту, набрыняла горкімі мужычымі слязьмі, ступі на яе — дык яна ж чвякае…» Дык скажы ты гэта «чвякае» так, каб чвякала ў гледачоў увушшу!» Не знаю, ці атрымалася…

Генадзь Аўсяннікаў зрабіў гасцям да дня нараджэння Макаёнка падарунак: прачытаў маналог са «Святой прастаты». Гэта была класічная аўсяннікаўская ігра: мінімум руху — а ўражанне самае моцнае. І пры ўсім драматызме, укладзеным у тэкст Макаёнкам, акцёр знайшоў месца такой інтанацыі, такому погляду, якія выклікалі выбухі смеху ў зале.

**Тамара МІКАЛАЕВА-АПІЁК, актрыса Купалаўскага тэатра, заслужаная артыстка:**

— Ён заўсёды быў усмешлівы, і я ніколі, ніколі не бачыла яго злым.

Не забуду адзін эпізод. Тэатру было 65, а такія даты шырока не святкуюць — толькі сваім колам, тэатральным. І вось я сустракаю Андрэя Ягоравіча, і ён мне кажа: «Тамара, я прынёс грошы…» «Навошта?» — смяюся. «Ну трэба ж на банкет…» І дастае з кішэні 500 рублёў. А зарплата артыста на той час — рублёў 120 — 180. Такі добразычлівы, цудоўны чалавек, які паабяцае — і зробіць.

Колькі ён зрабіў для нас, артыстаў!.. Яшчэ адзін прыклад. У тэатры існавала чарга на куплю «жыгулёў». І вось падышла чарга Ліліі Міхайлаўны Давідовіч. Грошай не хапала. І хто дапамог?.. Мы дапамагчы нічым не маглі, самі былі такія ж. Пазычыў Макаёнак — і ні разу не сказаў: «Вярніце».

**Дзмітрый МОХАЎ, мастак, сцэнограф:**

— Бываюць у жыцці кароткія сустрэчы, якія застаюцца з табой на ўсё жыццё. З Макаёнкам у мяне было ўсяго дзве.

Я працаваў над спектаклем «Святая прастата» з рэжысёрам Валянцінам Ткачом. Ткач сказаў: ты мастак, ты з Беларусі, распавядзі мне пра вашыя фарбы, пра паветра, пра ўсё… Я адказаў, што Беларусь — край зялёных пагоркаў, блакітных азёраў. За гэта ён і ўчапіўся



і ставіў «Святую прастату» як беларускую прытчу.

Ён настойваў на сустрэчы з Макаёнкам, каб той падпісаў сцэнар у згоду з рэжысёрскай трактоўкай... Андрэй Ягоравіч уважліва слухаў, а перад ім стаяла пляшка каньяку. Замест чарак былі чамусь невялікія кубкі. Недзе «за кулісамі» варыўся боршч. Макаёнак слухаў-слухаў і кажа: «Хлопцы, кружачку каньячку і чашачку баршчу». Так мы і дачыталі п'есу — да дна.

Другая сустрэча звязаная з буслом. Ён мусіў з'явіцца ў фінале, у пустым гняздзе над хлявом. Ткач кажа: «Нашто нам бутафорскі бусел?». Звярніся да Макаёнка. Ён дапаможа знайсці пудзіла». Сапраўды: сустрэліся, Макаёнак напісаў ліст — і мне выдалі бусла.

З ім я мусіў ляцець на здачу спектакля. Але ў аэрапорце высветлілася, што самалёт затрымліваецца. Я ўявіў, што творыцца ў тэатры, паставіў бусла каля сваёй лаўкі і падняўся на пошту перадаць тэлеграму: «не волнуйтесь я аистом сижу порту». На мяне паглядзелі, як на шпіёна: тэлеграфістка вырашыла, што гэта шыфр, і толькі калі пабачыла таго самага бусла, прыняла тэлеграму.

Спадар Уладзімір прынёс на сустрэчу архіўныя матэрыялы па «Святой прастаце» і паабяцаў перадаць у дар музею гісторыі літаратуры увесь блок матэрыялаў па спектаклі Макаёнка.

**Сцяпан ЛАЎШУК, член-карэспандэнт НАН Беларусі:**



— Вядома, што Макаёнак быў дзяржаўны чалавек. Ён меў сяброўскія стасункі з Мазуравым, і неяк запытаўся ў яго: «Скажы, як звалі таго герцага, які вучыў пісаць Леанарда да Вінчы?» Мазураў паглядзеў, падумаў, ці варта злавацца, і, мусібыць, вырашыў, што злавацца сэнсу няма. «Канечне, Андрэй, не ведаю. Але ведай, што і ты не Леанарда». Адказ гэты Макаёнку страшна спадабаўся, ён яшчэ доўга смяяўся. Калі ж у яго здараліся канфлікты з высокім начальствам, Андрэй Ягоравіч казаў: «Што яны зробяць? Мяне не здымуць. Я працую Макаёнкам!»

Ён клапаціўся не толькі пра тое, каб выраслі драматургі, — ён апекаваўся і крытыкамі. Не заўсёды ладзіў — так, але дапамагаў выдаваць кнігі, увогуле — працаваць.

А якое вока меў! Неяк раз, калі Макаёнак уваходзіў у склад прыёмнай камісіі ў тэатральна-мастацкім інстытуце, да экзаменатараў выйшаў ціхі хлопчык, сказаў якія тры фразы і сеў ля сцяны. Макаёнак адразу ж сказаў: вось будзе акцёр! То быў Манаеў.

**Барыс ЛУЦЭНКА, рэжысёр, народны артыст:**

— Скончыўшы тэатральную ВНУ ў Рызе, я чамусьці захацеў працаваць у Купалаўскім. Нахабна вырашыў пазнаёміцца з Андрэем Макаёнкам. Мы сустрэліся ў скверыку каля тэатра, ён мяне доўга распытваў — і з таго часу мы бачыліся часта.



Макаёнак паступаў у ГІЦІС. Не паступіў. Вялікая памылка экзаменатараў! Макаёнак — своеасаблівы Шукшын з Беларусі.

Пастаўлены мной «Зацюканы апостал» нараджаўся на вачах Андрэя, прычым часта мы даходзілі да канфліктаў. Поспех пастаноўкі быў ашаламляльны.

Аднойчы Салжаніцын даслаў Макаёнку, калі не памыляюся, «У крузе першым», каб надрукавалі ў «Нёмане». Макаёнак прачытаў і нічога кепскага не знайшоў. І наіўны, як дзіця, пайшоў да Кузьміна — зацвярджаць. Вядома, там сказалі: «Нельга».

Ён быў уваходжы і да Кузьміна, і да Машэрава, але, як ні дзіўна, яго п'есы забаранялі. Яму казалі толькі адно: «Не час». Ён пытаўся: «А калі?» І ў адказ — тое ж самае.

Пры ўсёй сваёй стойкасці, пры нязменным гумары Андрэй цяжка перажываў забароны п'ес, асабістыя трагедыі. Аднойчы я адчуў, што нешта не так. І паспяшаўся да Макаёнка на лецішча. Дабраўся. Стаіць Андрэй — у даўгім швэдары — і толькі ў ім. Снег ідзе. А ён стаіць і глядзіць у неба. «Андрэй, што з табой?» — «Ай, нічога…» А потым прызнаецца: «Хадзем, пакажу…» — і паказвае пісталет. «Добра, што ты прыехаў».

Вось як даходзіць да адчаю чалавек, які любіў смех.

Можна было чакаць, што найбольш распавядзе пра Макаёнка родны чалавек, дачка Ала Андрэеўна Гаўрыловіч. Але яна не рыхтавала вялікіх прамоў: толькі падзякавала гасцям за тое, што помняць бацьку, а яшчэ — за кожнае цёплае слова пра яго.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Уменне заўважыць талент

**Часопіс «Нёман» адзначае сёлета 70-гадовы юбілей. Пра мэты выдання і дзейнасць рэдакцыі распавядае намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар «Нёмана» Аляксей Чарота.**



**— Аляксей Іванавіч, якія самыя цікавыя публікацыі на старонках «Нёмана» вы можаце прыгадаць за апошнія пяць гадоў?**

— Гэтае пытанне хутчэй да чытачоў часопіса. Калі рэдакцыя прымае рашэнне надрукаваць той ці іншы матэрыял, значыць, мы лічым, што ён будзе цікавы чытачу. Кажучы ж пра публікацыі, якія мелі розгалас або па нейкіх прычынах вылучаліся сярод іншых, варта згадаць невядомую дагэтуль аповесць Уладзіміра Караткевіча «Перадгісторыя», кінааповесць Аляксея Дударава «Белыя Россы» (менавіта з дзвюма «с»), якая з'яўляецца працягам той (з адной «с»), што стала асновай вядомага кожнаму фільма, шматлікія творы вядомых замежных пісьменнікаў, упершыню перакладзеныя на рускую мову, новыя факты з жыцця і творчасці класікаў беларускай літаратуры, надрукаваныя ў рубрыцы «Дакументы. Нататкі. Успаміны»...

**— У чым галоўная мэта часопіса: прадстаўляць чытачам творчасць айчынных пісьменнікаў (праз пераклады на рускую мову) альбо знаёміць з рускамоўнай літаратурай незалежна ад дзяржаўных межаў?**

— Першыя нумары «Нёмана», які тады быў альманахам і называўся «Отчизна», пазней «Советская Отчизна», змяшчалі толькі творы, напісаныя па-руску. А ўжо ў 1951 годзе пастановай ЦК КПБ зменены профіль альманаха: вырашана побач з арыгінальнымі тэкстамі расійскіх пісьменнікаў друкаваць пераклады на рускую мову лепшых твораў беларускіх пісьменнікаў. З таго часу ў гэтым плане нічога не змянялася. Мы не аддаём перавагу ні перакладам, ні арыгінальным творам на рускай мове. Наша задача — знаёміць і з першым, і з другім.

Галоўная ж мэта — данесці да чытача сапраўдную літаратуру. У наш час, мне падаецца, рабіць гэта нашмат цяжэй, чым некалькі дзесяцігоддзяў таму. Інфармацыйная прастора перанасычана «творамі» самых розных жанраў. У інтэрнэце незлічоная колькасць сайтаў, дзе кожны, хто ведае літары, можа размясціць свае, як ён лічыць, таленавітыя тэксты. Таму цяпер асноўная задача літаратурных часопісаў — быць арыенцірам, эталонам, які паказвае, што ёсць літаратура, а што — пісаніна. Непадрыхтаванаму чытачу, асабліва моладзі, вельмі цяжка адрозніць першае ад другога, і мы павінны дапамагаць фарміраваць чытацкі густ, спрыяць развіццю цікавасці да якаснай літаратуры. Ці атрымліваецца — пакажа час.

**— Ці шмат чытачоў гартаюць «Нёман» за межамі Беларусі?**

— Мяркуючы па лістах, якія прыходзяць на рэдакцыйную электронную паштовую скрыню, геаграфія нашай чытацкай аўдыторыі даволі шырокая: ад краін, што некалі ўваходзілі ў склад СССР, да Германіі, Даніі, Ізраіля, Канады, ЗША... Да нас звяртаюцца з просьбамі дапамагчы адшукаць некага з аўтараў, знайсці матэрыял і, канечне ж, дасылаюць творы.

**— Як рэдакцыя шукае новых аўтараў? Ці дапамагаюць у гэтай справе шматлікія літаратурныя парталы?**

— Часцей за ўсё новыя аўтары самі знаходзяць нас. Рэдакцыя «Нёмана» зусім невялікая, а колькасць твораў, якія прыносяць і дасылаюць у рэдакцыю, даволі значная. Нельга абмінуць увагай ніводнага патэнцыяльнага аўтара, бо ёсць небяспека прапусціць сапраўдную літаратурную з'яву або загубіць яшчэ не раскрыты талент. Праца ж рэдактара заключаецца не толькі ў адборы тэкстаў і іх рэдагаванні, — гэта і ўменне заўважыць талент, дапамагчы раскрыць яго, што ў сваю чаргу патрабуе ведання не толькі літаратуры і мовы, але і псіхалогіі. Увогуле, кожны аўтар — асоба, у кожнага сваё бачанне свету, свае прынцыпы, і прыйсці да згоды з імі часам бывае вельмі складана. Але, натуральна, абмяжоўвацца толькі тымі аўтарамі, якія самі дасылаюць творы, мы не можам.

Яшчэ адзін абавязак супрацоўнікаў рэдакцыі — быць у курсе сённяшняга літаратурнага жыцця, адсочваць новыя імёны, знаходзіць творы. І тут мы не можам абмежавацца толькі інтэрнэтам, дзе сярод велізарнай колькасці графаманскіх твораў вельмі цяжка адшукаць нешта вартае. Хаця часам і атрымліваецца. Рэдактары аддзелаў пастаянна адсочваюць публікацыі ў перыядычным друку, і не толькі беларускім. Але гэта не значыць, што, калі некага пахвалілі ў рэцэнзіі, мы адразу кідаемся яго друкаваць. Усе супрацоўнікі часопіса маюць вялікі рэдактарскі вопыт, не менш за дзесяць гадоў, таму адрозніць сапраўднае ад другаснага для іх няцяжка.

**— Пытанне, якое здаўна цікавіць: чаму ў літаратурна-мастацкім і грамадска-публіцыстычным часопісе змяшчаюцца звесткі толькі пра аўтараў літаратурных твораў, а публіцысты, крытыкі, перакладчыкі застаюцца нават без кароткай біяграфіі?**

— Мы ні ў якім разе не хацелі б прынізіць значнасць публіцыстаў, крытыкаў, перакладчыкаў, якія, сапраўды, не менш важныя для нас, чым аўтары мастацкіх твораў. Проста так склалася традыцыйна. У шасцідзясятыя гады, напрыклад, часопіс увогуле не даваў звестак пра аўтараў. Хаця, можа, і варта было б перагледзець гэтае пытанне.

**— Як ацэньваюць здабыткі сучаснай беларускай літаратуры вашыя калегі з іншых краін?**

— З-за спецыфікі «Нёмана» часта даводзіцца мець справы з замежнымі выдаўцамі, рэдактарамі літаратурных часопісаў. Таму смела магу сказаць, што сучаснай беларускай літаратурай цікавяцца ў іншых краінах. Толькі з расійскіх магу назваць шэраг выданняў, якія друкуюць творы беларускіх пісьменнікаў, — «Литературная газета», часопісы «Наш современник», «Сибирские огни», «Вологодский лад», «Балтика» і шмат іншых. У Сербіі не так даўно выйшла «Анталогія сучаснай беларускай паэзіі». Вядомыя беларускія пісьменнікі і ў іншых краінах. А калі нашу літаратуру ведаюць за мяжой, значыць, яна займае пачэснае месца ў сусветнай мастацкай прасторы і нам ёсць чым ганарыцца.

**Юлія ШПАКОВА**

# Перакладаць?..

**Ці варта сучаснаму беларускаму пісьменніку арыентавацца на расійскага чытача і прапаноўваць свае творы для перакладу на рускую мову? Ці патрэбныя пераклады рускамоўных тэкстаў на старонках беларускіх літаратурна-мастацкіх выданняў? Трэба думаць, што такія пытанні час ад часу наведваюць не толькі Аляксея Чароту — галоўнага рэдактара часопіса «Нёман», — але і многіх чытачоў. Праблема руска-беларускіх перакладаў стала галоўнай для ўдзельнікаў тэматычнага «круглага стала» — пісьменнікаў Анатоля Андрэева і Генадзя Аўласенкі, перакладчыцы Ірыны Качатковай, супрацоўнікаў рэдакцыі «Нёмана» Алега Ждана і Наталлі Казапалянскай.**




*Фота Кастуся Дробава.*

*За «круглым сталом» — Алег Ждан, Наталля Казапалянская, Аляксей Чарота, Анатоль Андрэеў, Генадзь Аўласенка, Ірына Качаткова.*

На думку Ірыны Качатковай, пераклады на рускую мову беларускамоўных пісьменнікаў запатрабаваныя і сёння: «Я часта сутыкаюся з жыхарамі нашай сталіцы — інжынерамі, настаўнікамі і іншымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі, якія хацелі б пазнаёміцца з беларускай паэзіяй і прозай, але не знаходзяць перакладаў на рускую мову. Гэтыя людзі ўмеюць чытаць па-беларуску, але ў жыцці больш карыстаюцца рускай мовай. «Калі мне трапляе ў рукі беларуская кніга, я сяджу і разбіраю кожнае слова. Я разумею мову, але чытаць мне складана. Дайце мне пераклад!» — кажуць яны, і вельмі добра, што для гэтых чытачоў беларускамоўныя творы часам перакладаюцца.

Пераклады на рускую мову патрэбны па яшчэ адной прычыне: вельмі добра перакладаць з беларускай мовы адразу на французскую, англійскую альбо іспанскую. Але ці шмат у свеце перакладчыкаў з беларускай мовы? Большасць перакладаў на замежныя мовы ідуць праз рускую мову...».

«Мне здаецца, беларусам абавязкова трэба перакладацца на рускую мову, — зазначыў Анатоль Андрэеў. — Па-першае, абедзве краіны маюць блізкую культуру, па-другое, руская літаратура вельмі паўплывала на развіццё беларускай. Імкненне да ўзаемнага знаёмства, з пункту гледжання культурнага рашэння, абсалютна правільнае. Вядома, пераклад — гэта заўсёды культурны выклік, калі пісьменнік існуе ў адной мове і сцвярджае, што ў яго творах ёсць што канвертаваць. Да таго ж пераклад — гэта тэхналогія ўзбагачэння нацыянальнай літаратуры новымі прыёмамі, таму перакладаць з рускай мовы таксама варта».

Генадзь Аўласенка паставіў пад сумнеў актуальнасць перакладу рускамоўнай класікі і прызнаўся, што ніколі не меў жадання прачытаць Аляксандра Пушкіна па-беларуску.

Падчас «круглага стала» было таксама адзначана, што найбольш пасуюць для перакладу творы, якія адлюстроўваюць унікальную для пэўнай краіны сацыякультурную сітуацыю альбо дэманструюць рэальныя (не стэрэатыпныя) асаблівасці нацыянальнага менталітэту.

Вялікую цікавасць літаратараў выклікала праблема выжывання «тоўстых» літаратурна-мастацкіх часопісаў, абумоўленая супрацьстаяннем элітарнай і масавай (адназначна прыбытковай) літаратуры. На думку літаратуразнаўцы Анатоля Андрэева, рэдакцыі «тоўстых» часопісаў павінны ўздымаць аўтарытэт, а не тыражы.

«Якая розніца, колькі падпісчыкаў мае часопіс, калі ў выдання ёсць сапраўдная культурная вага? Што рабіць, калі колькасць падпісчыкаў значна зменшыцца? Зачыніць часопіс? Вы не часопіс зачыніце, а знішчыце культурную нішу, знішчыце інструмент, з дапамогай якога добрая літаратура адмяжоўваецца ад нізкаякаснай. У ЗША, напрыклад, існуе асаблівая ўніверсітэцкая літаратура. Там шмат плацяць за тое, каб выкладчыкі літаратуры пісалі і іх чыталі тыя, каму яны выкладаюць. Гэта ідыятызм? Фармальна так. Але так задаецца планка, і ніхто не здзівіцца, калі там з'явіцца сусветнага маштабу класік.

Тоўсты часопіс не дапаможа рабіць грошы. Літаратуру, якая прадаецца, трэба адразу выдаваць, а не публікаваць фрагментамі. Справа ў тым, што мы па нейкай традыцыі, якая ёсць яшчэ з савецкага часу, трымаем культурны ўзровень, і гэта для часопіса звышзадача».

Супрацоўнікі рэдакцыі «Нёмана» расказалі пра свае планы і спадзяванні. Загадчык аддзела прозы Алег Ждан чакае аўтараў добрых эксперыментальных твораў, а Наталля Казапалянская перасцерагае ад аўтаперакладаў: «самыя горшыя пераклады — гэта калі пісьменнік сам перакладае сябе».

«Часопіс "Нёман" добра ведаюць сёння — гэта культурны брэнд. Папулярызацыя беларускай літаратуры на рускай мове заўсёды была для яго галоўнай функцыяй, і цяпер гэта таксама апраўдана. Разам з тым "Нёман" — добрая магчымасць друкавацца для тых, хто піша па-руску. Удзельнічаць у працы выдання, якое мае менавіта культурны статус, — гэта вялікае задавальненне», — падагульніў размову Анатоль Андрэеў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*На паліцы*

# Творцы супраць стандартаў

Так склалася, што ў айчынным літаратуразнаўстве дагэтуль адсутнічала грунтоўнае, комплекснае тэарэтычнае даследаванне, прысвечанае развіццю беларускага прыгожага пісьменства на сучасным этапе. Навукоўцы нібыта наўмысна абыходзілі ўвагай перыяд з 1985 да 2010 гг., не спяшаліся даць шырокую ацэнку ці акрэсліць парадыгмальныя змены, што адбываліся ў нашай паэзіі і прозе ў гэты час. Натуральна, асобныя работы айчынных літаратуразнаўцаў, прысвечаныя вывучэнню гэтага перыяду, выходзілі з друку. Але яны носяць хутчэй апісальны, чым аналітычны характар, і з'яўляюцца прыкладамі гісторыка-літаратурнага, а не тэарэтычнага даследавання. Варта згадаць хаця б грунтоўную калектыўную працу «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» (4 том, 2 кніга) ці кнігу прафесара Алеся Бельскага «Сучасная літаратура Беларусі».

Магчыма, справа ў складанасці палітычных, эканамічных, сацыякультурных умоў, характэрных для азначанага перыяду. Яны не маглі не адбіцца на паэзіі і прозе айчынных аўтараў, не паўплываць на агульнае развіццё літаратуры. Каб асэнсаваць змены, акрэсліць тэндэнцыі і дапамагчы чытачу сарыентавацца ў літаратурнай сітуацыі, навукоўцам таксама патрэбен час. Але, думаецца, новую манаграфію кандыдата філалагічных навук, навуковага супрацоўніка Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, вядомага крытыка Ганны Кісліцынай можна назваць першым крокам і першай спробай комплексна зірнуць на беларускую літаратуру 1985 — 2010 гг. і асэнсаваць значныя змены, што адбыліся за гэты перыяд.

Якія характэрныя рысы беларускай літаратуры 1985 — 2010 гг. вызначае даследчыца? Так, Ганна Кісліцына для характарыстыкі перыяду ўводзіць паняцце «Новая літаратурная сітуацыя». Для яе характэрныя: разбурэнне іерархіі пісьменніцкай супольнасці, адмаўленне прызнаных канонаў і стандартаў творчасці, разнастайнасць жанраў і стыляў пісьма. Важную ролю ў станаўленні Новай літаратурнай сітуацыі адыгралі творчыя суполкі і таварыствы, а таксама маніфесты, што клаліся ў аснову гэтых пісьменніцкіх аб'яднанняў. Адметна, што для гэтага часу характэрна і змена гендарнага балансу ў нацыянальнай літаратуры: галасы жанчын-пісьменніц пачынаюць гучаць грамчэй, яны імкнуцца самасцвердзіцца ў творчасці. Айчыннымі пісьменнікамі ў азначаны перыяд засвойваюцца і прыёмы постмадэрнісцкай літаратуры: інтэртэкстуальнасць, фрагментацыя тэкстаў, выкарыстанне інтэрнэт-рэсурсаў. Гэта наблізіла нашу літаратуру да еўрапейскіх, выклікала цікавасць да твораў беларускіх аўтараў з боку замежных выдаўцоў і перакладчыкаў. Назіраецца і адваротны працэс: пачынае наноў выбудоўвацца нацыянальная школа перакладу з замежных моў на беларускую.

Адзначае Ганна Мікалаеўна і змены ў стаўленні да пісьменніка і літаратуры ў грамадстве. Яна піша: «Беларуская культура перастала быць літаратурацэнтрычнай. Пісьменнікі перасталі ўспрымацца як стваральнікі альтэрнатыўнага светапогляду, аддаўшы гэтае права палітыкам і журналістам, і абмежавалі сваю дзейнасць стварэннем мастацкіх тэкстаў, якія не прэтэндуюць на ісціну ў якой бы ні было інстанцыі». Разам з тым даследчыца падкрэслівае, што пісьменнікі старэйшага пакалення захавалі за сабой значную ролю ў грамадстве, яны не толькі ствараюць новыя раманы і вершы, але і садзейнічаюць вяртанню напаўзабытых імёнаў.

Адметна, што для Новай літаратурнай сітуацыі характэрныя і змены ў літаратурна-крытычнай творчасці і стаўленні грамадскасці да яе. Так, іронія сёння часцей гучыць у голасе крытыка, і адносіцца яна не столькі да твора, што аналізуецца (хоць і гэта не выключана), колькі да магчымасці самога аб'ектыўнага адназначнага аналізу і ацэнкі рамана ці зборніка вершаў. Пашырыўся і жанравы дыяпазон крытычных тэкстаў, што дазволіла крытыку таксама выяўляць свае творчыя здольнасці ў рэцэнзіях.

Думаецца, кніга Ганны Кісліцынай «Культурны градыент: ідэі, маніфесты, кірункі беларускай літаратуры на мяжы XX — XXI стагоддзяў» стане выдатным арыенцірам для сталых і маладых даследчыкаў літаратуры, якія вывучаюць творчасць нашых сучаснікаў. Манаграфія паказвае: не трэба баяцца аналізаваць, спрабаваць даць тэарэтычную ацэнку нашаму часу, бо менавіта такі шырокі і грунтоўны аналіз дапамагае скласці ў адну карціну надзвычай разнастайныя кавалачкі мазаікі сучаснай беларускай літаратуры.

**Марына ВЕСЯЛУХА**




*Ганна Кісліцына. Культурны градыент: ідэі, маніфесты, кірункі беларускай літаратуры на мяжы XX — XXI стагоддзяў. — Мінск: Права і эканоміка, 2015. — 345 с.*

*Унікальны праект*

# Паэзія дрэва і… сякеры

Нядаўна ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» пабачыла свет шыкоўнае выданне «Народнае дойлідства Беларусі. Гісторыя і сучаснасць». Аўтар — вядомы даследчык беларускага дойлідства, доктар архітэктуры Сяргей Сергачоў. Кіраўнік рабочай групы па стварэнні Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, музейнага комплексу старадаўніх рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі», рэстаўратар музейных збудаванняў у Заслаўі, гэтую галіну нацыянальнай культуры Сяргей Аляксеевіч ведае, як кажуць, «знутры».

Сёння назіраецца прыкметны рост цікавасці да набыткаў нацыянальнай культуры, занепакоенасць яе лёсам і перспектывамі, пошукі шляхоў і спосабаў зберажэння лепшых яе дасягненняў, уключэння іх у сучасныя культурныя працэсы. Вось хоць бы традыцыйнае драўлянае дойлідства, якое ў вёсцы яшчэ нядаўна было пераважным. Але сёння старыя будынкі, што засталіся без гаспадароў, парахнеюць або проста руйнуюцца, прыдатныя для жыцця «асучасніваюцца». Такое «абнаўленне» не абмінула нават некаторыя цэрквы і касцёлы, узятыя пад ахову дзяржавы як каштоўныя помнікі драўлянага дойлідства. Дойдзе да таго, што маладыя пакаленні не будуць мець уяўлення пра будаўнічае майстэрства нашых продкаў, якія маглі і хату збудаваць, і храм узвесці, і вятрак паставіць, прычым нярэдка — адной толькі сякерай.

Пра ўсё гэта з веданнем справы, захоплена і зразумела, жывой даступнай мовай распавядае на старонках кнігі Сяргей Сергачоў. Калі ж тэкст можа падацца «непад'ёмным» (больш як паўтысячы старонак!), то ілюстрацыі нікога не пакінуць раўнадушным. Сотні арыгінальных, а то і ўнікальных фотаздымкаў (на многіх — аб'екты, якія ўжо не існуюць), малюнкаў-рэканструкцый, чарцяжоў, схем… Яны адкрываюць новыя старонкі будаўнічага майстэрства продкаў: пакажуць тонкае адчуванне асаблівасцей прыроднага асяроддзя, уменне гарманічна ўключыць у яго збудаванне, выдатнае абыходжанне з драўнінай, валоданне цяслярскімі навыкамі.




Аўтар звяртаецца да гісторыі драўлянага дойлідства — і мы можам бачыць, што рэшткі жылога дома X стагоддзя, знойдзеныя археолагамі ў Брэсце, дэманструюць асноўныя будаўнічыя прыёмы і канструкцыі, якія без асаблівых змен дайшлі і да нашага часу. Тут распавядаецца пра характар будаўнічых канструкцый і прыёмы іх вырабу, асаблівасці ўзвядзення жылля і гаспадарчых пабудоў, грамадскіх і абаронных збудаванняў, цэркваў і касцёлаў, млыноў і мастоў. Прычым гэтыя даволі ўніверсальныя прыёмы канструявання ў розных рэгіёнах Беларусі набылі выразныя мясцовыя адметнасці. Напрыклад, на Панямонні і Заходнім Палессі пераважаюць зрубы з ачасанага бярвення, рубленыя ў «чысты» вугал, на Падняпроўі — з круглага, у вугал «з астаткам». Палескія хаты нярэдка бялілі глінай ці крэйдай, крылі чаротам; на Паазер'і будынкі ставілі на падмурку з каменю, якога на Палессі не знайсці.

Розным было і дэкаратыўнае вырашэнне збудаванняў. Дэкор жылля заходніх рэгіёнаў Беларусі даволі сціплы, лаканічны, пераважна канструкцыйнага характару. У пасляваенныя часы тут стала актыўна пашырацца шалёўка сцен з наступнай афарбоўкай, прычым у розныя колеры, што, зноў жа, сведчыць пра мастацкія памкненні майстроў. Падняпроўе, асабліва на мяжы з Усходнім Палессем, — рэгіён развітага архітэктурнага дэкору. Разьбяныя ўзоры аздабляюць аконныя ліштвы, падстрэшкі, закрыліны, ганкі, нават вароты і весніцы. Круглявыя бярвенні сцен шалёўкаю тут не закрывалі, і на гэтым фоне выразна вылучаюцца разьбяныя карункі, звычайна расфарбаваныя ў некалькі колераў. Але пры ўсёй разнастайнасці канструкцый заўважаецца агульнае: тонкае адчуванне майстрамі такіх паняццяў, як суразмернасць, гармонія, адпаведнасць навакольнаму асяроддзю і мясцовым традыцыям.

А якія велічныя, прыгожыя храмы ўзводзілі нашы майстры! Нягледзячы на войны, пажары, ваяўнічы атэізм, тое-сёе ўцалела да нашых дзён. Нельга не залюбавацца фотаздымкамі царквы ў Рубелі на Століншчыне, касцёла ў Дудах Іўеўскага раёна або званіцы ў Шарашове пад Пружанамі. Праўда, любуючыся выявамі ў кнізе, некаторыя чытачы могуць і не падазраваць, што многія пададзеныя тут узоры культавага дойлідства, адзнятыя аўтарам гадоў 30 — 40 таму, апошнім часам прыкметна змянілі свой выгляд — на жаль, не ў лепшы бок. Вядома ж, даследчык добра ведае пра гэта, несумненна, яму баліць, але чаму гэта праблема ў выданні далікатна абыдзеная?

Такая ж думка міжволі ўзнікае пры знаёмстве з раздзелам «Традыцыі народнага дойлідства ў сучаснай архітэктуры». Часам складваецца ўражанне, што аўтар больш піша пра тое, што хацеў бы бачыць, а не пра тое, што ёсць насамрэч. Вось, скажам, пра аграгарадкі: «актыўнае выкарыстанне прыёмаў, характэрных для горада, напрыклад павышаны ўзровень добраўпарадкавання, не было арыентавана на знішчэнне самага важнага, — вобраза сельскага асяроддзя. У аграгарадках яно фарміруецца па-ранейшаму з традыцыйным выяўленнем дамінант як уцалелых — адміністрацыйныя і культавыя збудаванні, клубы, так і новых, кампазіцыйна і функцыянальна звязаных з жылой забудовай». Можа, ёсць і такія прыклады, але ў памяці чамусьці ўсплывае іншая карціна: дзясятак аднолькавых стандартных домікаў сярод поля. Якія традыцыі будаўніцтва, якая прывязка да наваколля, як гэта было спрадвеку?

Як бы там ні было, але прыхільнікі нацыянальнай культуры, народных традыцый займелі вельмі прыстойнае, прыгожа зробленае выданне пра адзін з найгалоўнейшых відаў матэрыяльнай культуры беларусаў.

**Яўген САХУТА**

# Мары фантазёраў

**Дзяцей трэба ўвесь час здзіўляць — і гэта імкнуцца рабіць аўтары кніг для маленькіх. Каб напісаць адну, трэба вывучыць псіхалогію дзіцяці, паставіць сябе на яго месца, памарыць і пагарэзнічаць разам з ім... Словам, задача не з лёгкіх. Прадстаўленыя ніжэй творы можна з упэўненасцю аднесці да той літаратуры, якая, як кажуць, зацягвае. Нібыта нічога незвычайнага: гаворка ідзе пра самыя простыя рэчы — гульні на двары з сябрамі і паходы ў дзіцячы садок, перажыванні за адзнакі ў школе, зносіны з бацькамі, знаёмства з жывёльным светам... Але эфект ёсць! Прачытваючы чарговы верш для юных чамучак, задумваюцца нават дарослыя. Уся справа ў падачы — лёгкай, нязмушанай, а яшчэ — адказным стаўленні аўтараў да кожнага радка, імкненні несці не толькі радасць, але і навуку.**

## САЛОДКІЯ ЦУДЫ І ПТУШЫНЫ РЭСТАРАН




Што рабіць, калі тэлевізар, планшэт і нават камп'ютар перастаюць цікавіць? У кнізе «Юлін рэстаран» Вольгі Савасцюк, што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», сцвярджаецца, што занятак для сябе гарадское дзіця можа лёгка знайсці нават у маленькай вёсцы. Галоўнае — праявіць фантазію!

Зборнік складаецца з «залатога трыа» — вершаў, загадак і казак. Гэта вельмі пазнавальнае і вясёлае чытво для маленькіх непаседаў. На пачатку кнігі галоўная гераіня на канікулах адпраўляецца за горад да бабулі. Здавалася б, звычайная справа — і, зрэшты, даволі сумная. Невялікі домік, хатняя гаспадарка, сад, агарод… Ніякіх крам з яркімі шыльдамі, прылаўкаў, заваленых цацкамі на любы густ, кінатэатраў і цыркавых прадстаўленняў. Але вынаходлівая Юля знаходзіць, чым сябе заняць — не доўга думаючы, яна адкрывае рэстаран! Зразумела, дзіцячы. Унікальнасць яго ў тым, што замест звычайных наведвальнікаў — жывёлы на бабулінын падворку. Задумка ў дзяўчынкі добрая, але ж яна сутыкаецца з невялікімі цяжкасцямі, трапляючы ў смешныя сітуацыі, што робіць аповед яшчэ цікавейшым. Тым не менш гэтая гісторыя складае толькі чацвёртую частку кнігі.

> *Тэмы, якія закранае аўтар у вершах, блізкія і сучасным дзецям — шчаслівае вяртанне са школы дадому, калі атрымаў добрыя адзнакі, задуменнае назіранне за дажджынкамі з вокнаў свайго пакоя, калі яшчэ не хочацца спаць, летнія паходы з палаткамі ў вясёлай кампаніі, вожык, якога абавязкова трэба напаіць малаком…*

Саліднае месца ў ёй займаюць загадкі пра тое, што вельмі любяць дзеці — салодкія прысмакі. Тут вам і белы смачны пясок пад назвай цукар, і малочны з арэшкамі шакалад, і цукеркі-дзяўчаткі ў прыгожых сукенках, зефір, што нагадвае снежкі. Трапляюцца і загадкі-жарты на іншыя тэмы кшталту: «Калючы шарык на акне / Глядзіць варожа на мяне. / Ану кідай, браток, злаваць. / Хачу з табой пасябраваць. / Як дакрануўся я рукой, / Ледзь не заплакаў. Ой-ой-ой!». Прыгожыя параўнанні стварае аўтар. Васількі ў Вольгі Савасцюк — гэта воблачка, што заснула ў жыце. Цёплы жоўты камячок, які нагадвае кавалак сонейка, — маленькае кураня. Зноў жа, фантазія неабмежаваная!

Што тычыцца вершаў, то градус іх шчырасці, як кажуць, зашкальвае. Здаецца, яны вярнуліся з дзяцінства саміх бацькоў, калі ўсе захапляліся спевамі ката Матроскіна з Прастаквашына і прыгодамі Чабурашкі з Генам. Тэмы, якія закранае аўтар у вершах, блізкія і сучасным дзецям — шчаслівае вяртанне са школы дадому, калі атрымаў добрыя адзнакі, задуменнае назіранне за дажджынкамі з вокнаў свайго пакоя, калі яшчэ не хочацца спаць, летнія паходы з палаткамі ў вясёлай кампаніі, вожык, якога абавязкова трэба напаіць малаком… Вобразы настолькі блізкія, што кніга, бясспрэчна, будзе вельмі каштоўнай.

## КАЗАЧНАЯ ПАЛІТРА БУДНЯЎ

«Темноты я не боюсь, / Спать всегда один ложусь. / Ночью тёмною во сне — / Прилетают сны ко мне». Што такое сны? Неверагодна тонкая матэрыя, вобласць за гранню розуму, адзін з самых таямнічых фізіялагічных працэсаў у арганізме, іншая рэальнасць, бясплатнае кіно, нарэшце, і крыніца натхнення для пісьменнікаў, мастакоў, рэжысёраў... Некаторыя нават кажуць, што, з пункту гледжання псіхалогіі, сон — страта прытомнасці. А вось кніга Віктара Кудлачова, якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда» пад назвай «Прылятаюць ноччу сны», — гэта казачнае даследаванне дзіцячых начных мрояў.

Вершы, якія ўвайшлі ў зборнік, напоўнены святлом і гумарам, вучаць радавацца кожнаму дню і імкнуцца да ўвасаблення сваіх жаданняў. Што агульнага выданне мае са снамі? Папершае, ілюстрацыі Аксаны Аракчэевай нібы намаляваныя дзіцячай рукой, але вельмі па-майстэрску — тут і ружовыя сланяняты, і аранжавыя конікі, і касцюм касманаўта, і сонечныя зайчыкі з доўгімі вушамі, што лётаюць на парашуціках. Па-другое, тэматыка тэкстаў адразу ж адсылае маленькіх чытачоў да іх мар, фантазій, неверагодных ідэй. Кніга пабудаваная такім чынам, што ствараецца ўражанне, нібыта розныя дзеці ў вершаванай форме дзеляцца сваімі думкамі. Адзін распавядае, што бачыў у сне адважную аўчарку на чырвоным кані, якая скакала па лясной дарозе з сакрэтным пакетам, другі імкнецца праляцець на самалёце па блакітным небе над роднай зямлёй, трэці шчыра жадае дагнаць вецер і адправіцца на край свету. Малыя самі сабе (і чытачам) задаюць пытанні, якія, напэўна, хвалююць многіх у дзяцінстве: чаму людзі ў сне лётаюць? ці можна пабудаваць такую велізарную лесвіцу, з якой можна было б назіраць за ўсім светам? ці рэальна адправіцца ў космас?

Некаторыя вершы выконваюць функцыі калыханак і прыходзяць на дапамогу бацькам, каб супакоіць няўрымслівых дзетак. «С улыбкой на личике / Девочка спит, / Щенок под кроваткой / Тихонько сопит», — пасля такіх слоў дзіця падумае: «А чым я горшая за гэтую дзяўчынку? Таксама буду адпачываць — там жа вельмі цікава, у сне!».

Віктар Кудлачоў не абмяжоўвае сваё апавяданне толькі начнымі дзіцячымі ўяўленнямі. У кнізе шмат вершаў, прысвечаных жыццю маленькіх у любы час! «Наступает новый день — / Разгоняйте сон и лень», —




> *Ілюстрацыі Аксаны Аракчэевай нібы намаляваныя дзіцячай рукой, але вельмі па-майстэрску — тут і ружовыя сланяняты, і аранжавыя конікі, і касцюм касманаўта, і сонечныя зайчыкі з доўгімі вушамі, што лётаюць на парашуціках.*

прапануе адзін з герояў кніжкі. Як бы ні было, звычайныя будні аўтар афарбоўвае ў казачныя колеры. Лета ў яго раз'язджае на карэце, возячы з сабою мора святла і цяпла, птушкі размаўляюць на чалавечай мове, рыбкі ўмеюць усміхацца, а котка «фанацее» ад гульні хлопцаў-футбалістаў у двары. Малым, напэўна, спадабаюцца і не менш арыгінальныя «небылічкі». Уявіце: «Белый волк бредет тропою — / Красный зонт над головою. / Тёмно-синяя лисица / На мопеде с горки мчится. / А зелёный кот Антошка / Шьёт сапожки жёлтой кошке». Такія пацешныя рыфмаваныя творы дапамагаюць развіваць у дзяцей уяўленне, а бацькам прапануюць правесці з маленькімі не адзін вечар пытанняў і адказаў.

Творы Віктара Кудлачова настолькі жыва ўяўляюцца, што хочацца тут жа ўзяць у рукі паперу, каляровыя алоўкі, фламастары, фарбы і тварыць! Героі вершаў, дарэчы, не праседжваюць цэлымі днямі перад манітoрам, а атрымліваюць асалоду ад вандровак, спорту, словам, вядуць актыўнае жыццё — і вучаць гэтаму чытачоў. Гуляюць у даганялкі, кідаюць мяч, адпраўляюцца ў паходы, катаюцца на роліках і самакатах, бегаюць... Увогуле, падаюць добры прыклад!

У кнізе «Прылятаюць ноччу сны» можна знайсці і рыфмаваныя апавяданні (якія больш падобныя да баек) пра жывёл. Напрыклад, малады козлік, які фарсіць у модных новых ботах і крычыць, што ён самы прыгожы, смелы, разумны, палохаецца звычайнага ката. «Смелый козлик так бежал, / что сапожки потерял», — смяецца аўтар. Віктар Кудлачоў апавядае дзеткам і пра цікавыя моманты з жыцця іншых істот: жабак-балаболак, што спужаліся бусла і збеглі са свайго балотнага канцэрта, грацыёзнай стракозы, якая хоча стаць верталётчыцай, коціка, што з'еў усю смятану, пераклаўшы віну на мышку... У кожным невялічкім творы хаваецца пытанне, на якое павінен адказаць чытач — а значыць, добра падумаць. Даволі грунтоўны адукацыйны (для пэўнага ўзросту — ад трох да сямі гадоў) складнік кнігі не выклікае сумненняў.

Віктар Кудлачоў звяртаецца як да тых, хто ходзіць у дзіцячы садок, так і да першакласнікаў, але ўсіх аднолькава натхняе імкнуцца да ведаў, больш чытаць. Пісьменнік шчыра дае адказы на вельмі розныя пытанні: пра тое, якую прафесію лепш выбраць у дарослай будучыні, навошта святлафору тры колеры, у чым карысць свежага паветра перад сном. У вершах «хаваюцца» парады і наконт правільных паводзін, норм этыкету: што можна, а што нельга рабіць у тэатры, грамадскім транспарце, за сталом падчас абеду, у лесе... Не забывае аўтар паразмаўляць з дзецьмі і на сур'ёзныя тэмы вайны і міру на зямлі, павагі да старэйшых, неабходнасці захавання сваёй спадчыны, любові да радзімы.

Цікава, што апавяданне ў зборніку плаўна рухаецца ў адпаведнасці са зменай пораў года, а вось падзелу на главы ў кнізе няма. Дадаткам да вершаў служаць скорагаворкі для трэніроўкі вымаўлення гукаў і літар кшталту «Дима на дудочке долго играл, / дедушка дудочку слушал, дремал / или «Листвою опавшей шурша, / Шла в шубке лиса не спеша». Загадкі можна знайсці на суседніх старонках і паразважаць разам з дзіцем, чаму даму ў цвёрдай кашулі называюць чарапахай, навошта снежань рассыпае на двары бязважкае, нібы пёры, срэбра і як шар, што круціцца на адной назе, змяшчае ў сабе ўвесь свет…

Марыя ВОЙЦІК

# Мастоўшчына: сем святочных дзён


Удзельнікі Тыдня культуры Мастоўшчыны.

**Тыдзень культуры Мастоўскага раёна «Культура без межаў», ініцыяваны аддзелам ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мастоўскага райвыканкама, прайшоў у г. Масты Гродзенскай вобласці. Да яго арганізацыі ды адкрыцця, якое адбылося ў Мастоўскай раённай бібліятэцы, спрычыніліся выдавецтва «Чатыры чвэрці» ды Саюз пісьменнікаў Беларусі.**

У складзе сталічнай дэлегацыі Масты наведалі першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, сябры Мінскага гарадского аддзялення СПБ Дзмітрый Дземідовіч, Аліна Легастаева, Анатоль Зэкаў, Яна Явіч і менеджар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Святлана Франко. Дырэктар Мастоўскай раённай бібліятэкі Таццяна Стэльмах падкрэсліла: кніжніца ўжо працяглы час падтрымлівае цесныя творчыя стасункі з гэтым выдавецтвам, пастаянна папаўняючы свае фонды кнігамі з серый «Дзеці вайны», «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».

Начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мастоўскага райвыканкама Сяргей Дзейкала ў прывітальным слове зазначыў: тыдні культуры ладзяцца ва ўсіх раёнах Гродзенскай вобласці. Гэта доўгатэрміновы праект, які носіць не камерцыйны, а асветніцкі характар і скіраваны на тое, каб паказаць найлепшыя напрацоўкі установ культуры рэгіёна.

Паводле намесніка старшыні Мастоўскага райвыканкама Аляксандра Яраша, на гасціннай мастоўскай зямлі заўсёды прыемна бачыць выбітных дзеячаў, у тым ліку айчынных пісьменнікаў. Такія сустрэчы дапамагаюць акцэнтаваць большую ўвагу людзей, асабліва маладых, на развіцці нашай культуры.

Падчас адкрыцця святочнага тыдня публіка паглядзела відэапрэзентацыю, прысвечаную культуры Мастоўшчыны, і пабачыла выступленне народнага ансамбля песні «Ярыца».

Сваю творчасць прадставілі і госці Тыдня культуры Мастоўшчыны — літаратары. У дар бібліятэцы яны перадалі кнігі сяброў СПБ з аўтографамі. Пра дзейнасць выдавецтва «Чатыры чвэрці» распавяла Святлана Франко. Уласную байку прачытала мастаўчанка, аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў Зінаіда Біліда.

Генадзь Пашкоў прызнаўся, што Тыдзень культуры Мастоўшчыны — падзея, якая не толькі ўражвае, але і здзіўляе неардынарным, «раённым», фарматам. Генадзь Пятровіч не толькі пазнаёміў прысутных з уласнымі творамі, але і прадставіў часопіс Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі «Белая Вежа». Акрамя таго, дыпломы Саюза пісьменнікаў Беларусі за прапаганду айчыннай літаратуры з яго рук атрымалі Аляксандр Яраш, Таццяна Стэльмах, былы дырэктар Мастоўскай раённай бібліятэкі Таццяна Валчкевіч, дырэктар Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея Кацярына Басінская.

У межах Тыдня культуры Мастоўшчыны адкрылася і выстаўка мастацкай вышыўкі ў Мастоўскім раённым цэнтры рамёстваў. Дырэктар цэнтра Жанна Новік прадставіла публіцы майстроў Галіну Пракопчык і Марыю Саўко, якія распавялі пра сваю творчасць.

Галіна Пракопчык, ураджэнка вёскі Брузгі Гродзенскага раёна, займаецца мастацкай вышыўкай ужо каля 10 гадоў. Асабліва любіць вышываць горад і прыроду. У серыі работ — выявы Лондана, Прагі, Парыжа, Венецыі… Мастаўчанка Марыя Саўко аднавіла мноства вышываных твораў, што дайшлі да нас з даўніх часоў. На Лідчыне, адкуль яна родам, не было дзяўчыны, якая б не ўмела вышываць. Скончыўшы школу, марыла стаць ткачыхай, але маці адгаварыла. У выніку скончыла медвучылішча, адкуль яе накіравалі на працу ў Масты — у Дом інвалідаў… Займацца вышыўкай працягнула ўжо на пенсіі. Сёння ў творчым арсенале Марыі Станіславаўны — кветкавыя матывы, пейзажы.

Падчас Тыдня культуры Мастоўшчыны рэалізаваны цэлы комплекс імпрэз, разлічаных на прадстаўнікоў розных пакаленняў.

**Арына КРАЙКО**

# Мудрая школа Келімбетава

**Немат Келімбетаў — казахскі вучоны-літаратуразнаўца, перакладчык, празаік, публіцыст, імя якога сёння ўсё больш вядомае ў свеце. Многія гады быў прыкуты да ложка і інваліднай калясні. Можна толькі здагадвацца, якія пакуты давялося яму трываць! Пайшоў з жыцця ў 2010 годзе.**

Ды мужнасць, вера ў вечнасць, жаданне з дня ў дзень следаваць маральным, духоўным арыенцірам фарміравалі і надалей асобу з вялікай літары. Асабліва пакутлівымі былі дзесяць першых гадоў хваробы, якую Немат Келімбетаў сустрэў у 35 гадоў. Але побач была каханая жонка Куаныш, любімыя сыночкі Мухіт і Кайрат. Трэба было думаць і пра іх. Нягледзячы на ўсе складанасці, Немат знайшоў у сабе сілы для няпростай сферы творчасці — мастацкага перакладу. Гэтым і карміў сям'ю.

З успамінаў жонкі пісьменніка Куаныш-апай: «…Абільжамін Жумабаеў… прапанаваў перакласці на казахскую мову раман армянскага пісьменніка Леаніда Гурунца «Мой мілы Шушыкент». Гэта, канечне, было праявай неацэннай дабрыні, бо ў той час абы-каму не даручалі рабіць мастацкі пераклад. Немат пачаў знаёміцца з раманам. Тут трэба падкрэсліць тое, што чытаць кнігу для яго таксама было справай няпростай, вельмі пакутлівай. Паколькі рукі не дзейнічалі, мы прыладзілі на яго грудзях прыстасаванне з дошчачак, на якое прымацоўвалі кнігу. Да таго часу муж ужо размаўляў; дачытаўшы чарговую старонку, ён клікаў мяне, каб перавярнуць лісток. Калі я выходзіла з дому па справах, каля галавы бацькі сядзеў Кайрат і выконваў гэты абавязак. Паступова Немат сам навучыўся языком перагортваць кніжныя старонкі»…

Такім быў пачатак вялікай нястомнай дарогі! Адразу на памяць прыходзяць рэальныя жыццёвыя гісторыі пісьменніка і шахцёра Уладзіслава Цітова, легендарнага Мікалая Астроўскага (яго раман «Як гартавалася сталь» — і сёння адна з цікавых кніг для кітайскай моладзі!), нашай зямлячкі — франтавой медсястры Зінаіды Тусналобавай-Марчанка...

Следам за мастацкім перакладам прыйшла ўвага і да арыгінальнай прозы. Пра выпрабаванні лёсу Немат Келімбетаў напісаў аповесць «Не хачу губляць надзею». Былі створаны кнігі «Лісты да сына», «Зайздрасць». Вучоны напісаў унікальную, наватарскую працу «Агульная літаратурная спадчына цюркскіх народаў». Такое шырокамаштабнае палотнішча не кожнаму здароваму навукоўцу магчыма адолець.

Цяпер кнігі Немата Келімбетава перакладзены на мовы многіх народаў свету. Па-беларуску выдадзены «Не хачу губляць надзею», «Лісты да сына». Дарэчы, выданне аповесці «Не хачу губляць надзею» пабачыла свет з прадмовамі акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, славутага беларускага нейрахірурга Арнольда Смеяновіча і лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь пісьменніка Уладзіміра Ліпскага. А зусім нядаўна ў Маскве ў выдавецтве «Художественная литература» выйшла ў свет па-свойму унікальная кніга «Клас Келімбетава».

У адным зборніку, прысвечаным казахскаму асветніку, выступаюць пісьменнікі, вучоныя, грамадскія дзеячы з розных краін свету. Усе разважаюць пра грамадзянскі, навуковы і мастацкі феномен Келімбетава, асэнсоўваюць яго творчую спадчыну, жыццёвы лёс. Валерый Ганічаў, Георгій Прахін, Абдзіжаміл Нурпеісаў, Чжан Хайдзі, Юн Біньш, Святлана Ананьева, Фархад Хамраеў, Райхан Мажэнкызы — іх і шмат каго яшчэ захапляе постаць, уражваюць перакананні Немата Келімбетава. З артыкулам «Беларуская платформа Немата Келімбетава» выступае Алесь Карлюкевіч.

Завяршае кнігу нарыс кандыдата філалагічных навук Святланы Ананьевай — «Любімы вучань Мухтара Ауэзава». Ёсць там і такія словы (цытата са спадчыны легендарнага педагога Януша Корчака): «Трэба адшукаць сябе ў грамадстве, сябе ў чалавецтве, сябе ў Сусвеце». Мяркую, што гэтыя словы самым непасрэдным чынам адносяцца і да Немата Келімбетава. Казахскі асветнік знайшоў сябе і ў грамадстве, і сярод пакаленняў усяго чалавецтва. Тым ён і цікавы Сусвету. Творчая, навуковая спадчына пісьменніка, літаратуразнаўцы, якога надзвычай загартаваў жыццёвы лёс, крочыць па ўсёй планеце.

…Дарэчы, у кнізе «Не хачу губляць надзею» (Мінск, 2014 год) развагам Немата Келімбетава папярэднічае верш азербайджанскага паэта Чынгіза Аліаглу ў перакладзе на беларускую мову Таццяны Сівец: «Нібы пчала да кветкі-лёсу, / Ты адляцеў у боскі вырай. / Ты даказаў, што смак палёту / Магчыма зведаць і бяскрылым». Ведаю, што ёсць вершы, прысвечаныя Немату Келімбетаву і ў беларускіх паэтаў — Міколы Мятліцкага, Юліі Алейчанка, Генадзя Аўласенкі.

**Сяргей КІЛІПЛАЎ**

# Таямніцы Рэйтана

Вечарына, арганізаваная арт-суполкай імя Тадэвуша Рэйтана і прысвечаная памяці гэтага выбітнага дзеяча беларускай гісторыі, адбылася ў мінскім Доме-музеі Ваньковічаў.

У зале дома-музея, упрыгожанай партрэтамі героя і малюнкамі з эпізодамі з жыцця ягонага роду, гучала музыка XVIII ст. у выкананні мастацтвазнаўцы Святланы Немагай. З прывітальным словам да ўдзельнікаў і гасцей вечарыны выступіў загадчык музея Сяргей Вечар, які перадаў слова кіраўніку арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана Змітру Юркевічу. Суполка паўстала 18 красавіка 2013 года — гэтая дата супала з днём пачатку Трохгадовага сойма — падзеі, якая стала вызначальнай у лёсе героя вечарыны і праславіла ягонае імя.

Тадэвуш Рэйтан нарадзіўся ў 1740 г. у маёнтку Грушаўка (цяпер у Ляхавіцкім раёне) і ў 1773 г. быў дэпутатам Сойма Рэчы Паспалітай ад Навагрудскага ваяводства, які быў скліканы з ініцыятывы Расіі, Аўстрыі і Прусіі — каб заканадаўча замацаваць першы падзел Рэчы Паспалітай. Аднак Тадэвуш Рэйтан і Станіслаў Корсак атрымалі ад землякоў наказ бараніць незалежнасць і цэласнасць дзяржавы. Падчас аднаго з пасяджэнняў Тадэвуш Рэйтан лёг на парозе соймавай залы і не даваў падкупленым паслам-здраднікам прайсці, звяртаючыся да іх са словамі: «Тапчыце мяне, але не забівайце Бацькаўшчыны!» — гэты момант адлюстраваны на вядомай карціне Яна Матэйкі.

Рэжысёр Уладзімір Арлоў згадаў пра праблемы, з якімі сутыкаюцца ўдзельнікі арт-суполкі ў сваіх клопатах пра спадчыну роду Рэйтанаў, асабліва пра несуцяшальны стан маёнтка ў Грушаўцы. Ён таксама адзначыў, што ў Ляхавіцкім раёне дагэтуль няма краязнаўчага музея. Мастак Алесь Родзін каротка распавёў пра мастацкую канцэпцыю свайго графічнага шэрагу, прысвечанага роду Рэйтанаў. Фёдар Чарняўскі, аўтар працы «Ураднікі Менскага ваяводства XVI — XVIII стст.», прывёў шмат цікавых фактаў пра повязь роду Рэйтанаў з мінскай шляхтай. Даследчык Здзіслаў Сіцька, які нарадзіўся непадалёк ад маёнтка Рэйтанаў, падзяліўся ўласнымі ўспамінамі пра гэтыя мясціны. А гісторык Анатоль Сцебурака захапляльна распавёў пра пошукі дакументаў, звязаных з родам Рэйтанаў, у Французскім ваенным архіве, а таксама пра пахаванні выхадцаў з Беларусі на Манмартрскіх могілках у Парыжы.

Напрыканцы імпрэзы публіцы былі прапанаваныя для прагляду фільмы, прысвечаныя герою вечара, у тым ліку серыя цыкла «Адваротны адлік», створаная каналам АНТ пры ўдзеле сяброў суполкі. А на падворку дома Ваньковічаў у напаўмістычным святле вечаровых ліхтароў гледачоў чакала выстаўка аднаго вечара — графічная серыя «Род Рэйтанаў. Асобы. Падзеі» аўтарства Алеся Родзіна.

Інтэр'еры старасвецкага дома-музея, графічныя вобразы, тагачасная музыка і захопленасць даследчыкаў — усё гэта дапамагло публіцы думкамі перанесціся ў бурлівае XVIII стагоддзе і адчуць сапраўдны гонар за сваіх продкаў, надзею на лепшую будучыню зямлі, за волю якой тыя змагаліся.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Май ДАНЦЫГ: «Карцінам глыбокім, удумлівым належыць будучыня»



**Творчая сустрэча з народным мастаком Беларусі Маем Данцыгам прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь на фоне жывапісных і графічных палотнаў віртуоза «суровага стылю», манументальнасці, яркіх фарбаў. На карцінах — паэзія штодзённасці, прыгажосць працы простых людзей, непаўторны вобраз роднага Мінска, ваенны летапіс... Рэалізм ва ўсёй яго абаяльнасці. У якіх умовах мастак стварае свае палотны? Як нараджаліся ідэі? Што яму давялося перажыць падчас Вялікай Айчыннай вайны? Ці ёсць перспектывы ў сучаснага мастацтва? Нядаўна Май Вольфавіч адзначыў сваё 85-годдзе. Ён поўны ваяўнічага аптымізму, юнацкага запалу і жыццялюбства!**



«Партызанскае вяселле».

## ВЫРАТАВАННЕ

Ішоў сёмы дзень вайны. У час бамбёжкі Мінска сям'я Данцыгаў хавалася ў лесе, але тут каля горада навісла падазроная цішыня, прадвесніца бяды... «Тата надзеў свой лепшы касцюм, мама — сукенку. Мы амаль нічога не ўзялі. Проста пайшлі на таварную станцыю, якая знаходзілася ў раёне вуліцы Маскоўскай. Цягнікі не хадзілі, але людзі тоўпіліся. І раптам — дымок паравоза ўдалечыні! І чатыры таварныя цяплушкі. Калі машына пад'ехала да станцыі, усе думалі, што сядуць, але... Паравоз і не думаў спыняцца! Калі надзея была ўжо амаль страчана, у адным з вагонаў адчыніліся дзверцы і данеслася: «Данцыг!» Мой бацька да вайны выкладаў фізкультуру, і там апынуўся яго вучань. Толькі дзякуючы гэтай шчаслівай сустрэчы мы выратаваліся! На наступную раніцу немцы былі ўжо ў Мінску. Пачалася акупацыя. Аддзяліла ад смерці нас усяго толькі адна ноч...» — распавёў Май Данцыг.

## ХЛЕБ САЛАДЗЕЙШЫ ЗА ЦУКЕРКІ

З дзяцінства Май іграў на скрыпцы і маляваў. Паколькі вайна «забіла» любімы інструмент, застаўся з алоўкам у руках. Калі ён быў маленькім, вокны не фарбавалі, а абляплялі белай паперай. Яе і размалёўваў. Экранам у свет было акно. Сядзеў на шырокім падаконніку ў доме па вуліцы Мяснікова і глядзеў, што робіцца на вуліцы. Уражанні пераносіў на паперу. Гэта ўменне выдатна спатрэбілася яму ў ваенныя гады.

«Калі мы цудам выратаваліся, праз месяц дабраліся да Ульянаўска. Голад стаяў страшны. Спачатку мне замовіла шыльду ўладальніца ларка, дзе прадавалі хлеб па картках. Я з гонарам на кавалку жалеза напісаў «Ларок № 3». За гэта мне далі бохан хлеба, я прынёс яго дадому і ганарыўся, што, вось, стаў карміцелем. Звычайны чорны хлеб тады здаваўся нам саладзейшым, чым цукеркі... Наступнай працай стала напісанне лозунгаў для швейнай фабрыкі, дзе працавала мама. Мяне спыталі: «Як табе аддзячыць, хлопчык?» Я папрасіў пашыць сукенку для сястры, ёй не было ў чым хадзіць. А дзякуючы мне яна змагла нават на танцы пайсці! Гонару не было межаў. Сам я хадзіў абарваны, еў... можна сказаць, нічога. Раніцай адпраўляўся на рынак, браў у кожнай бабулі ў шэрагу па жмені семак, мая кішэня напаўнялася, і я быў на дзень забяспечаны», — падзяліўся ўспамінамі Май Вольфавіч. Ён часта кажа, што стаў мастаком яшчэ ў чэраве маці — колькі сябе памятае, любіў маляваць. Ролю адыгралі і гены. Тата, Вольф Герцэвіч, іграў на скрыпцы і выдатна маляваў.

## НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

Пасля вайны, у 1952-м, Май Данцыг скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, а потым і Маскоўскі дзяржаўны мастацкі інстытут імя Сурыкава (1958 г.). Дэбютаваў карцінамі, якія паказвалі Мінск, што шуміць, дыхае, размаўляе... «Аднойчы я ўбачыў палатно мастака, што мела назву «Уезд у новую кватэру». Там было мноства рэчаў, шафа і нават фікус пасярод пакоя. Гэтая тэма зачапіла мяне, але я пакляўся: на маёй карціне не будзе нічога, акрамя саміх людзей! Пусты дом, чыстая пафарбаваная падлога, босыя ногі хлопца і дзяўчыны. Калі я прынёс карціну на выстаўку, мне здзіўлена сказалі: «Дзе ты бачыў, каб у савецкіх людзей у кватэры нічога не было? Не можа быць такога!». Што было рабіць? За ноч дамаляваў пару лакіраваных туфлікаў. Раніцай пачуў такі адказ: «Ну гэта ж іншая справа!». Карціну выставілі. Пасля экспазіцыі туфлікі я ўсё ж такі прыбраў», — усміхаецца Май Данцыг.

## НЕАБСЯЖНАСЦЬ ЧЫРВОНАГА І ПРАВІЛЬНЫ ВЫБАР

Амаль на кожнай карціне Мая Данцыга прысутнічае чырвоны колер — сімвал перамогі жыцця. Сам мастак кажа, што наўмысна абраў яркую, сакавітую, актыўную, магутную палітру — «каб карціна выбліскам урывалася ў прытомнасць, брала гледача загрудкі і не адпускала!». Эмацыянальнасць аўтара, яго максімалізм падкрэслены і фарматам карцін, памер якіх перавышае чалавечы рост.

«За тое, што я адважыўся ўзяць вялікае палатно, мне неаднаразова даставалася ад тых, хто рабіў экспазіцыі. Але заўсёды было такое правіла: ці пішу, як хачу, ці не будзе нічога! Ніколі не імкнуўся зарабляць на мастацтве вялікія грошы. Аднойчы сябар сказаў мне: «Май, кідай ты гэтыя выстаўкі, займіся справай, якая прыносіць прыбытак!» Я адказаў: «Не. Па гэтым шляху не пайду. Мне нецікава». Лічу, што гэта мой недахоп, але інакш я не мог. Бо ў маладыя гады і на трамвайны білецік, які каштаваў усяго тры капейкі, не хапала. Мяне карміла перакананасць у правільнасці свайго выбару...» — падзяліўся Май Вольфавіч.

## КУЛЯМЁТ І НЕМАЎЛЯ

«Пасляваенны Мінск ляжаў у руінах, праглядаўся з аднаго канца ў іншы. Рэйкі заклікалі сваімі працягнутымі да неба «рукамі» да справядлівасці. Мноства работ на ваенную тэматыку было напісана мастакамі ў той час — але ў асноўным батальныя сцэны. Не было яшчэ філасофскага асэнсавання вайны. Я загадаў сабе заняцца гэтым, бо менавіта такім карцінам, глыбокім, удумлівым, належыць будучыня», — сказаў мастак. Май Данцыг вырашыў на палатне расказаць пра тое, як людзі сыходзілі ў партызаны. Так у 1967 годзе нарадзілася карціна «Беларусь — маці партызанская». Мастак адлюстраваў наймагутнейшы сімвал: немаўля і кулямёт, загорнутыя ў аднолькавую дзіцячую коўдру. «Прыярытэты зраўняліся, нават, здаецца, зброя была важней... Кулямёт я вучыўся маляваць, наведваючы музей Вялікай Айчыннай вайны. На карціне ёсць і плуг, які я знайшоў на калгасным двары, і печку, якую таксама ўбачыў у горадзе побач з рэштками жылых дамоў на фоне саду, што квітнеў увесну... Усе рэчы рэальныя! Я ніколі нічога не прыдумляю», — сказаў Май Вольфавіч.

## НЯЗВЕДАНЫЯ СЦЕЖКІ

«Партызанская вяселле» Мая Данцыга — такой карціны няма ва ўсім сусветным мастацтве. Дзеянне адбываецца ў храме пад назвай «Лес». Святочнымі калонамі служаць дрэвы. На маладой — грубыя рабочыя чаравікі замест лакіраваных туфлікаў. Гімн жыцця гучыць тады, калі вакол перамагае смерць, гінуць людзі, ідзе вайна. Гэта быў вельмі моцны кантраст, жаданне паказаць, за што змагаліся людзі, даказаць, што яны працягвалі жыць, кахаць... Май Данцыг размаўляў з партызанамі, так сапраўды было.

Усе сюжэты майстар бярэ з жыцця. На карціне «Партызанская балада» намаляваная жанчына, якая корміць грудзьмі знясіленага партызана на выпаленым полі бою. Матыў запазычаны ў Рубенса, з яго карціны пра рымлянку Пяро, якая выратавала асуджанага на галодную смерць бацьку. Убачыўшы гэта палатно, Май Вольфавіч адразу ж правёў паралелі з нямецкай акупацыяй СССР у ходзе Другой сусветнай вайны, калі Беларусь стала «карміцелькай» для савецкіх партызан. На карціну, вядома ж, знайшліся крытыкі. А ён адказаў ім: «Усё чалавецтва выхоўвалася гэтымі грудзьмі — чаго тут саромецца?» Але нядобразычліўцы настаялі на сваім — работа была адхілена. Мастак звёз яе ў майстэрню і адклаў да лепшых часоў, калі яна будзе зразумелая і набудзе каштоўнасць. Так і выйшла. Сёння карціна экспануецца ў многіх краінах свету.

## БЕЛАРУСКАЯ МАДОННА

Савецкія войскі, увайшоўшы на тэрыторыю Нямеччыны, вызвалілі з палону Дрэздэнскую галерэю, якая была схаваная ў шахтах. Пасля рэстаўрацыі ў Маскве палотны вярнуліся на радзіму... У гэтай калекцыі Май Данцыг убачыў адну з галоўных карцін — «Сікстынскую мадонну» Рафаэля, напісаную ім у пачатку XVI стагоддзя па замове папы Юлія II. Май Данцыг адлюстраваў на сваім палатне момант выхаду Сікстынскай мадонны Рафаэля з-пад зямельнага тунэля, што, паводле задумы аўтара, служыць метафарай вызвалення Еўропы ад фашызму. Вобраз мадонны ў цэнтры шматпланавай кампазіцыі сімвалізуе новае жыццё, саму Вялікую Перамогу, а параненыя салдаты наўкол нагадваюць пра нечалавечую цану, якую прыйшлося заплаціць за вызваленне. Гэта выратаванне не толькі жыцця, але і культуры народаў... Каб завяршыць работу, Данцыгу спатрэбілася больш як 10 гадоў. Карціна была гатовая толькі ў 1985-м.

## ПАЭЗІЯ МІРУ

«Аднойчы мне ўдалося пабываць у пасёлку Бярозаўка, што ў Гродзенскай вобласці. Там пабудаваны выдатны шклозавод. Ствараліся шэдэўры крышталя, дзіўнай прыгажосці прадметы. Праца рабочых нагадала мне сапраўдны рытуальны танец. «Плыве па Нёмане крыштальны карагод» — так я назваў карціну, паставіўшы сабе мэтай узвесці працу рабочых у ранг мастацтва.

«Вось з агню вады сцюдзёнай выходзяць на мароз маржы» — яшчэ адна жыццесцвярджальная карціна Данцыга. Людзі, якія радуюцца, румяныя, прыгожыя побач з возерам у марозны дзень. Гэта радасць жыцця!

## НАВОШТА НАМ МАСТАЦТВА І... КРЫЛЫ?

«Што трэба, каб стаць мастаком? Вялікія крылы і ўменне на іх лётаць. Багатае ўяўленне і апантанасць. Калі кіравацца толькі цаной, якая стаіць у дамове, нічога сапраўды вартага не атрымаецца», — упэўнены Май Вольфавіч. Акрамя таго, у кожнага мастака, паводле яго слоў, ёсць такое памяшканне — «творчая кухня». Вось там і адбываецца самае цікавае, «варацца розныя стравы», ставяцца эксперыменты, робяцца спробы і памылкі. Штосьці пры гэтым атрымліваецца з пачуццём, толкам, а нешта — як быццам з ног на галаву.

«Што сёння адбываецца з мастацтвам? Забываецца старая школа, якая была лепшай у свеце, зніжаецца прафесійны ўзровень. Як бы ні лаялі сацрэалізм, нам да яго яшчэ далёка. Многае страчана з савецкіх часоў. Трэба падымаць узровень. У тым ліку і выпускнікоў мастацкіх спецыяльнасцей. Сумна, што мастацтва сёння ператворана ў камерцыю. Гэта вялікая памылка. Многія не хочуць разумець карціны, удумвацца. У мяне ёсць палатно «Бессань», дзе адлюстраваны пакой, растрапаная коўдра. Калі карціну выстаўлялі за мяжой, так і пераклалі — «Непрыбраны ложак». Але хіба ў гэтым справа? Гэта ж сімвал, падстава для раскрыцця вялікай чалавечай драмы. Нельга ўспрымаць усё павярхоўна! Тым не менш ёсць людзі, якія, адрываючыся ад надзённых спраў, прыходзяць у музеі, галерэі, храмы мастацтва — гэта каштуе многага! Шмат хто ў сваім жыцці забываецца пра эмоцыі, а яны не менш важныя, чым поспехі ў народнай гаспадарцы. Як казаў пісьменнік Куприн, з часам людзей разумных будзе станавіцца ўсё больш, а людзей, якія ўмеюць праяўляць моцныя пачуцці, менш. Думаю, гэта прарочыя словы і трэба быць напагатове, разумець і берагчы пачуцці, уласцівыя чалавеку. Менавіта мастацтва, а не самая дасканалая тэхніка, робіць чалавека чалавекам», — упэўнены Май Данцыг.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

# Падарункі для Латвіі

**Пачаўся новы этап беларуска-латвійскага супрацоўніцтва ў сферы культуры. Нацыянальнай бібліятэцы Латвіі перададзены камплект найбольш значных выданняў пра Беларусь.**

Акцыя адбылася ў межах праекта «Беларусь сёння», які быў ініцыяваны ў 2010 г. міністэрствамі культуры, інфармацыі і замежных спраў нашай краіны. А яшчэ сёлета ў межах візіту дэлегацыі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў найбуйнейшую бібліятэку Латвіі перадалі больш як 80 найлепшых айчынных кніг — лаўрэатаў нацыянальных і міжнародных кніжных конкурсаў.

Адбыліся прэзентацыя і перадача латвійскай «Нацыяналцы» камплекту з 8 тамоў факсімільных выданняў кніжнай спадчыны Францыска Скарыны. Гэта знакавая падзея запачаткавала падрыхтоўку да святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.

Акрамя гэтага, рэалізуецца ўнікальны культурны праект Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Банка БелВЭБ — выпуск факсімільнага выдання ўсіх 25 кніг, надрукаваных Францыскам Скарынам у Празе і Вільні. Завяршыць праект плануецца да 2017 г. Факсімільнае выданне з максімальнай паўнатой адновіць кнігі першадрукара: будуць захаваны асаблівасці шрыфтоў і гравюр арыгінальных выданняў, перададзены ўсе рысы, набытыя рарытэтамі на працягу 500-гадовага існавання.

З нагоды завяршэння Дзён беларускай культуры ў Латвіі, што былі прысвечаны Францыску Скарыне, у самым сучасным і прадстаўнічым будынку краіны — Нацыянальнай бібліятэцы Латвіі — адбыўся святочны канцэрт. Падчас імпрэзы прагучалі афіцыйныя віншаванні з боку Прэзідэнта Латвійскай Рэспублікі, мэры Рыгі, Беларускага пасольства ў Латвіі, кіраўніцтва нацыянальных бібліятэк абедзвюх краін.



*Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі перадае дырэктару Нацыянальнай бібліятэкі Латвіі Андрысу Віксу адзін з прывезеных у Рыгу тамоў факсімільнага выдання кніжнай спадчыны Францыска Скарыны.*

**Алесь СУША,**
**намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі,**
**фота аўтара**

***

**III Міжнародны кангрэс «Бібліятэка як феномен культуры» прайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**

Горацкі раён на кангрэсе прадстаўлялі дырэктар «Горацкай раённай бібліятэчнай сеткі» Наталля Ермалаева і аўтар гэтых радкоў — бібліятэкар Публічнага цэнтра прававой інфармацыі Цэнтральнай бібліятэкі імя М. Гарэцкага.

Падчас «круглага стала» «Дзейнасць публічных цэнтраў прававой інфармацыі» вядучыя спецыялісты бібліятэк, навукова-даследчых устаноў і арганізацый, прадстаўнікі заканадаўчай сферы і выканаўчай улады абмеркавалі розныя аспекты функцыянавання бібліятэк ва ўмовах інфарматызацыі грамадства, раскрылі праблемы нарматыўна-прававога забеспячэння бібліятэчнай дзейнасці. Досведам падзяліліся і спецыялісты Цэнтральнай бібліятэкі імя М. Гарэцкага.

Сёння цэнтр прававой інфармацыі пры бібліятэцы забяспечвае карыстальнікам свабодны бясплатны доступ да прававой і іншай сацыяльна значнай інфармацыі, а таксама вядзе работу па павышэнні прававой культуры насельніцтва, у тым ліку дзяцей і моладзі. Любы чалавек, звярнуўшыся ў бібліятэку, можа скарыстацца тэматычнымі падборкамі прававых дакументаў, што захоўваюцца ў камп'ютары ў кожным філіяле. Рэгулярна абнаўляецца блок «Прававыя рэсурсы» на сайце бібліятэкі (*lib-gorki.mogilev.by*), дзе можна азнаёміцца з «Экспрэс-бюлетэнем», фінансавай інфармацыяй, а таксама азнаёміцца з шэрагам карысных спасылак.

**Вольга САДЫКОВА**

*Топ-рэйтынг*

# Будзь на хвалі!

Навагрудскія бібліятэкары падчас раённай акцыі «Моладзь за кнігу і чытанне» склалі спіс самых папулярных сярод моладзі выданняў.

На першым месцы топ-рэйтынгу — раман сучаснай пісьменніцы **Наталлі Батраковай «Тэрыторыя душы»**. Знаёмства Ганны Кругловай і Канстанціна Крылова адбылося пры вельмі неспрыяльных абставінах. Але лёс быў настойлівым, прапануючы кожнаму з іх шанец за шанцам, каб наладзіць адносіны…

Другі радок у спісе заняла кніга **Маргарэт Мітчэл «Знесеныя ветрам»**. Вялікая сага пра Грамадзянскую вайну ў ЗША і лёс ганарлівай Скарлет О'Хара была ўпершыню апублікавана амаль 80 гадоў таму і не састарэла да сёння. Гэта раман пра тое, што любоў да жыцця бывае важнейшай за каханне.

На трэцім месцы — кніга беларускага празаіка **Галіны Пярун «Прабач»**. Падзеі рамана разгортваюцца ў абласным цэнтры. Галоўныя дзеючыя асобы — школьныя настаўнікі. Раман пра каханне, пра першыя расчараванні і здраду, пра тое, як цяжка бывае зразумець і дараваць.

Чацвёртае, шостае, сёмае і дзясятае месца ў топ-рэйтынгу займаюць кнігі **Стэфані Морган Маер** — амерыканскай пісьменніцы, якая стала вядомай дзякуючы серыі раманаў «Змярканне». Ва ўсім свеце колькасць прададзеных кніг серыі ў перакладзе на 37 моў — 85 мільёнаў асобнікаў. Гісторыя пра вечнае супрацьстаянне вампіраў і пярэваратняў.

Містычны твор **«Майстар і Маргарыта» Міхаіла Булгакава** — пяты радок рэйтынгу. Самая загадкавая кніга рускай літаратуры XX ст., якая агаляе вечныя тэмы кахання, барацьбы дабра са злом, смерці і неўміручасці.

Кніга **Барыса Васільева «А світанні тут ціхія»** восьмая ў спісе. Гэта адзін з самых пранізлівых па сваёй лірычнасці і трагедыйнасці твораў пра вайну. Пяць дзяўчат-зенітчыц на чале са старшынёй Васковым у маі 1942 года на далёкім раз'ездзе супрацьстаяць атраду нямецкіх дыверсантаў-дэсантнікаў. Светлыя вобразы дзяўчат, іх мары і ўспаміны пра каханых, ствараюць кантраст з нечалавечым тварам вайны, якая не пашкадавала іх — маладых, пяшчотных.



*Фота Кастуся Дробава.*

На дзявятым месцы — **«Тыя, хто спяваюць у цярноўніку» Колін Макалоў.** Раман напісаны ў жанры сямейнай сагі, падзеі якой ахопліваюць паўвекавы перыяд. Гісторыя нялёгкага і трагічнага выбару паміж пачуццямі, прызваннем і царкоўнай кар'ерай. Такім чынам, у сучаснай моладзі ў прыярытэтах як сучасная беларуская літаратура, так і замежная. Чытанне застаецца для маладых людзей неабходным і звыклым заняткам.

**Фаіна МАЛЮЖЭНЕЦ**

# У «Краіне Віншавалія»

Задача далучэння дзіцяці да чытання сёння значна ўскладнілася. Тэлевізары і камп'ютары — больш прывабныя і даступныя, бо не патрабуюць актыўнай працы розуму і душы. Усведамляючы ўсю важнасць гэтай праблемы, бібліятэкі спрабуюць знайсці шляхі прыцягвання дзяцей да кнігі, улічваючы ўзроставыя і індывідуальныя асаблівасці.

Мастоўская раённая дзіцячая бібліятэка паставіла перад сабой мэту — зрабіць абслугоўванне не толькі карысным і камфортным, але цікавым і забаўляльным. Для гэтага створаны гульнёвы пакой «Зялёны востраў». Дзецям прапануюцца настольныя і электронныя гульні, цацкі, разумны «Суперкамп'ютар», разнастайныя кнігі: музычныя, з пазламі і лега, з тактыльнымі ўстаўкамі, кніжкі-цацкі, кнігі, якія гавораць.

Актыўнымі наведвальнікамі гульнёвага пакоя сталі бацькі з маленькімі дзецьмі, групы з дзіцячых садоў і школ. Частыя госці «Зялёнага вострава» — дзеці з сацыяльных прытулкаў, выхаванцы цэнтра карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Прыемна, што маленькія чытачы, якія наведалі бібліятэку днём з групай дзіцячага садка ці школы, увечары прыводзяць ужо сваіх бацькоў.

Арганізавалі ў сценах бібліятэкі святкаванне аднаго з самых любімых дзіцячых свят. З'явілася «Краіна Віншавалія». Загадзя прадумваем і рыхтуем сцэнарый, робім запрашальныя паштоўкі, гульнёвы пакой упрыгожваем рознакаляровымі шарамі, дэкаратыўнымі кветкамі, малюнкамі, падбіраем тэматычныя аксесуары для імянінніка і яго гасцей. Пасля дзён нараджэння і наведвання гульнёвага пакоя юных чытачоў становіцца больш. Сёння калектыў ужо не ўяўляе сваю бібліятэку без «Зялёнага вострава». Задавальненне бачыць, што праца патрэбная дзецям.

**Надзея НАВАГРОДСКАЯ**

*Да ведама*

# Казкі, песні ды загадкі

Сапраўднае свята дзіцячай кнігі адбылося ў сталічнай бібліятэцы № 6 імя Васіля Віткі. Пачэсным госцем стаў знакаміты паэт і перакладчык, старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Мазго.

Падчас імпрэзы Уладзімір Мінавіч пазнаёміў чытачоў бібліятэкі са сваімі вершамі і загадкамі, а таксама ўласнымі перакладамі казак народаў Аўстраліі і казак Андэрсэна на беларускую мову. Вучні сярэдняй школы № 60, што завіталі на свята, чакаў прыемны сюрпрыз — тэатралізаваная папуры лялечнага тэатра «Пацешка» паводле казак пісьменніка. Паслухалі песні на словы Уладзіміра Мазго.

А напрыканцы дапытлівыя чытачы літаральна закідалі пісьменніка самымі рознымі пытаннямі. Развітваючыся, Уладзімір Мінавіч у якасці пажадання прыгадаў трапныя словы з уласнага верша: «Не гуляйце, дзеці, доўга ў інтэрнэце з дапамогай мышкі, а чытайце кніжкі».

**Кацярына БУЗОЎКІНА**

***

Літаратурная гасцёўня пад назваю «Паэт, рэжысёр, сцэнарыст…» для вучняў 6-х класаў, на якую быў запрошаны вядомы паэт Ваўкавыска Вячаслаў Макуць, прайшла ў бібліятэцы гімназіі № 2 г. Ваўкавыска.

Госць пазнаёміў шасцікласнікаў са сваімі творамі, расказаў пра дзяцінства, пра напісанне першага верша ў шостым класе.

Вячаслаў Мікалаевіч — член Саюза тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь, рэжысёр заслужанага аматарскага тэатра драмы і камедыі «Славуціч». Для навучэнцаў ён арганізаваў у гімназіі тэатр-студыю. У канцы кожнага навучальнага года юныя артысты паказваюць пастаноўкі для гімназістаў і настаўнікаў.

Падчас імпрэзы Вячаслаў Мікалаевіч расказаў, як складаюцца акравершы. Вучні доўга не адпускалі паэта, задавалі пытанні, прасілі прачытаць свае творы.

**Тэрэза КАВАЛЬЧУК**

# Беларускі Прышвін жыве ў Паплавах

**Традыцыйна ў лістападзе бібліятэкары Паплаўскага сельсавета ладзяць тыдзень літаратурнага краязнаўства «Вялікая літаратура з правінцыяльнай прапіскай».**

Сёлетні лістапад адзначаны 85-гадовым юбілеем беларускага Прышвіна, пісьменніка-натураліста Рыгора Ігнаценкі. Хата па вуліцы Міру, 45 у аграгарадку Паплавы... З 1956 года тут жыве самы знакаміты вясковы інтэлігент. Сціплае ўбранства пакояў, на сценах — рэпрадукцыі карцін з пейзажамі Левітана, Пярова, Куінджы як пацвярджэнне жыццёвага крэда гаспадара: багаты не той, хто шмат мае, а той, каму дастаткова таго, што ёсць.

Шмат выцярпеў бядотаў, уцалеў у пякельным полымі вайны. У 7 гадоў вясковы хлопчык Рыгор з Касцюковіцкага раёна застаўся круглым сіратой, апынуўся ў дзіцячым доме. У 11 гадоў яго дзяцінства, як чорны цень груган, дагнала вайна: вымушаная эвакуацыя, бамбёжкі, тыф, пасля якога трэба было наноў вучыцца хадзіць, гаротная доля блукання па чужых краях — Украіне, Сярэдняй Азіі, атрыманне новага (на ўзбекскі лад) імені пасля ўсынаўлення хлопчыка бяздзетнай узбекскай сям'ёй, моўная ізаляцыя, калі даводзілася днямі маўчаць з прыёмнай маці, якая не разумела ні слова па-руску... Пакутная дарога вяртання ў родную Беларусь: ехаў на дахах цягнікоў, на вагонных прыступках, у сабачых скрынках пад вагонамі, пераплываў на цеплаходзе Каспій…

У 16 гадоў паступіў у Магілёўскае рамеснае вучылішча № 10 на слесара-зваршчыка. Атрымаў пасля заканчэння 5-ы разрад — неверагодна высокі для навічка без вопыту. Працаваў у Мінску на будаўніцтве аўтазавода па рамонце і наладцы будаўнічай тэхнікі. Пасля працы будучы пісьменнік хадзіў у вячэрнюю музычную школу, а з першай зарплаты набыў гармонь, затым баян. Пасля дэмабілізацыі ўладкаваўся музычным кіраўніком у дзіцячы дом у Ратамцы. На абласным семінары сустрэў свой лёс — піянерважатую Паплаўскага дзіцячага дома Машу Барысёнак. Па клічы сэрца перавёўся ў Паплавы, ажаніўся. Маладыя здымалі сціплы пакойчык, вучыліся завочна: яна — у Мінскім педагагічным інстытуце, ён — ва Усесаюзным універсітэце мастацтваў. З небагатых настаўніцкіх заробкаў адкладвалі грошы на пабудову сваёй хаты, у якой выраслі дочкі Валя і Галя.

Стаўшы настаўнікам, Рыгор Ігнаценка праводзіў у лесе урокі музыкі, запрашаў леснікоў на вучнёўскія лінейкі. Добра ў лесе, самыя цікавыя думкі прыходзяць. Ігнаценка піша па-прышвінску лёгка, выразна, натуральна. Яго пісьменніцкі дэвіз: хочаш распавесці пра прыроду — абмакні пяро ў вясёлку. Прырода ўсё ведае, а сказаць павінен чалавек.

У творчым даробку земляка — кнігазбор з 12 выданняў для дзяцей, якія вучаць не камянець сэрцам, пільна ўглядацца ў навакольны свет. Агульны тыраж выданняў былога настаўніка музыкі з вёскі Паплавы складае каля паўмільёна экземпляраў. Першая кніга «Лясныя штукары» (1964 г.), апошняя — «Зацугляны шчупак» (2009 г.). Ёсць яшчэ 2 самвыдатаўскія зборнікі Паплаўскай бібліятэкі «Зялёнае рэха», «Пад ляснымі шатамі». Пісьменнік з традыцыйна вясковай сціпласцю не любіў хадзіць у выдавецтвы, не цешыў сваё самалюбства шматтыражнымі выданнямі. Рыгор Ігнаценка стаў членам Саюза пісьменнікаў Беларусі толькі ў 1993 годзе, ужо маючы 9 кніг і салідныя рэкамендацыі А. Куляшова, К. Кірэенкі, Я. Ермаловіча, А. Васілевіч, М. Чарняўскага, Я. Пархуты.

У гонар юбілею славутага земляка супрацоўнікі Паплаўскай бібліятэкі зладзілі вечарыну «Сэрца, расхінутае насустрач прыродзе» з прэзентацыяй электроннага зборy твораў пісьменніка.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзела маркетынгу Бярэзінскай ЦБ.**

## Фоташтрых

**Рукапісы не гараць — але гэта не значыць, што яны несмяротныя.**

Па іроніі лёсу, чарнавікі рукапісу «Майстар і Маргарыта» — рамана Міхаіла Булгакава, у якім і «прапісаная» вядомая ўсім цытата, — у небяспецы.

Як распавёў дырэктар Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі Аляксандр Віслы, рукапіс вельмі хутка можа рассыпацца ў пыл. Літаральна. Справа ў тым, што Міхаіл Булгакаў пісаў у звычайных сшытках, і, натуральна, ствараліся яны па тэхналогіях, якія саступаюць сучасным. Кажучы груба, тэрмін годнасці паперы скончыўся.

Так, цяпер неабходная неадкладная рэстаўрацыя, і ўскладняецца сітуацыя тым, што Міхаіл Афанасьевіч не рабіў копіі з рукапісу, і, значыць, пад пагрозай вынішчэння — адзіны яго экземпляр. Галоўная ж праблема — у Расіі няма прадпрыемства, якое б магло заняцца вырашэннем гэтай праблемы.

Акром таго, Аляксандр Віслы зазначыў: не толькі рукапіс «Майстар і Маргарыта» сутыкнуўся з такой




праблемай, пад пагрозай — многія рукапісы класічных твораў рускай лтаратуры.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Каб чыталі!

Сучасная моладзь… Чым жыве і цікавіцца ў эпоху імклівых змен? Хто больш дакладна адкажа на гэтыя пытанні, як ні самі маладыя? Аляўціна Габец — студэнтка 5 курса факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Дзяўчына вучыцца на сацыёлага і працуе бібліятэкарам у цэнтральнай гарадской бібліятэцы горада Жодзіна.

**— Сацыёлаг — не самая папулярная прафесія сярод моладзі, як, напрыклад, дызайнер ці маркетолаг. Чаму ты зрабіла менавіта такі выбар?**

— Бывае, што не чалавек выбірае прафесію, а прафесія выбірае яго. Мяне з дзяцінства прывучалі быць больш актыўнай, нежк праяўляць сябе, але пры гэтым быць сціплай. Сацыёлаг, лічыцца, увесь час кантактуе з людзьмі. Гэта мне і падабаецца. Атрымліваецца своеасаблівы ўзаемаабмен ведамі, вопытам, поглядамі. Зразумела, што ўсе людзі розныя, да ўсіх трэба знайсці падыход, але менавіта гэта і цікавіць у прафесіі — пошук чагосьці агульнага для збліжэння.

**— Чым цікавішся акрамя даследаванняў?**

— Сёння у маім жыцці галоўная вучоба. Але захапленняў шмат. Мне падабаецца тэатр (як удзельніцы, так і быць гледачом), спорт, ну і, безумоўна, кнігі.

**— Тады пагаворым пра кнігі. Распаўсюджана меркаванне, што моладзь зараз зусім не чытае. Што скажаш?**

— Сапраўды, такую думку часта можна пачуць. Сёння літаратуру замяняюць інтэрнэт, тэлебачанне. Нават самі кнігі сталі электроннымі. Але ўсё ж такі большасць чытачоў нашай бібліятэкі аддаюць перавагу папяровай кнізе. Мне таксама такі варыянт даспадобы. Люблю шоргат старонак пры перагортванні і пах свежанадрукаваных кніг.

**— Што зараз чытаеш?**

— Большую частку майго «чытальнага» часу займае вучэбная літаратура, бо я студэнтка. Але зманю, калі скажу, што зусім не чытаю мастацкай літаратуры — я ж працую ў бібліятэцы, зразумела, выбар вялікі. Мне больш падабаюцца кнігі пра каханне, пра ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Зараз я чытаю «Чорная котка ў аранжавым лісці» Марыяны Ганчаровай. У гэтым зборніку невялічкіх апавяданняў пісьменніца расказвае пра сваё жыццё, назіранні, заўвагі, пачуцці. Яшчэ не так даўно прачытала кнігу пад назвай «Дудзі-дубі-ду» Андрэя Астравумава. Спачатку зацікавіла назва, а пасля — іранічнасць кнігі і пачуццё гумару аўтара. Падабаецца, як пішуць беларускія творцы. Нашых класікаў мы добра ведаем, паважаем і любім, а вось сучасных маладых пісьменнікаў амаль ніхто не чытае. Ёсць такая кніга «Кахаць і верыць» — з яе і пачалося маё знаёмства з новай беларускай літаратурай. Таксама ў планах прачытаць кнігу гісторыка і майго добрага знаёмага Міхаіла Галдзянкова «Палёт дубовага ліста».

**— Каго з замежных аўтараў параіш пачытаць?**

— Я б перачытала Рэя Брэдберы «Віно з дзьмухаўцоў». Гэты твор прыцягвае сваёй простай філасофічнасцю, дзіцячым поглядам на розныя дарослыя рэчы і пачуцці. Яшчэ творы Сэлінджэра «Над прорвай у жыцэ», Баха «Чайка па імені Джонатан Лівінгстан», Брантэ «Джэн Эйр». Галоўнае — знайсці тую кнігу, якая будзе натхняць на добрыя, шчырыя справы.

**Віталь ЖУРАЎСКІ**

## Млын навін

# Сустрэчы, вечарыны, юбілеі…

**Касцюковіцкая цэнтральная бібліятэка імя І. Чыгрынава сёлета адсвяткавала юбілеі знакамітых пісьменнікаў-землякоў Міхаіла Шаванды і Віктара Патапенкі.**

13 верасня пісьменніку-натуралісту Міхаілу Шаванду споўнілася б 80 гадоў. На літаратурны вечар "Я з кнігай адкрываю свет прыроды" завіталі дачка пісьменніка Святлана Міхайлаўна і ўнук Аляксандр, а таксама ветэран бібліятэчнай справы Марыя Пуцята, па ініцыятыве якой у дзіцячай бібліятэцы было створана аматарскае аб'яднанне прыхільнікаў прыроды «Буслянка». На пасяджэннях гэтага аб'яднання частым госцем быў і Міхаіл Шаванда. Родныя пісьменніка падзяліліся ўспамінамі.

Міхаіл Іванавіч любіў прыроду, вучыў гэтаму дзяцей. Хоць працы было шмат (лясніцтва на тры раёны: Касцюковіцкі, Хоцімскі і Клімавіцкі), паспяваў знаходзіць час і справе для душы — пісаў нататкі пра лес і яго насельнікаў. Аўтар чатырох кніжак пра прыроду «Карнеева крынічка», «Крыштальны звон бяроз», "У кожнага дрэва свой голас", «Заходзьце ў шматгалосы храм». Міхаіл Шаванда быў тонкім псіхолагам лесу, які быў для яго жывым, з «тонкім і складаным характарам». Яго творы кранаюць паэтычнасцю, любоўю да прыроды, клопатам аб ёй.

Уступам да зборніка «У кожнага дрэва свой голас" стаў водгук беларускага пісьменніка Анатоля Зэкава: «… З любоўю і пяшчотай апавядае М. Шаванда пра «братоў нашых меншых», пра кожнае дрэва і травінку, нібыта заклікае кожнага з нас вывучаць прыроду і вучыцца ў яе самім. А перш за ўсё — берагчы лясное харawство. Каб потым было што вывучаць і было ў каго вучыцца».

Празаік Віктар Патапенка адзначыў 60-гадовы юбілей. Ён аўтар публіцыстычнага зборніка «Арганізавана супраць арганізаванай», кнігі апавяданняў «Я — оперупаўнаважаны», беларускага дэтэктыва «Сустрэчная паласа», укладальнік зборніка ўспамінаў, эсэ, апавяданняў пра паэта-земляка, сябра Алеся Пісьмянкова «Шлях бярозамі значаны».

Віктар Уладзіміравіч часты госць на роднай зямлі: свята паэзіі і музыкі «Пісьмянкоў луг», юбілеі пісьменнікаў-землякоў, сустрэчы і мерапрыемствы ніколі не абыходзяцца без яго.

На гэты раз павіншаваць юбіляра, пазнаёміцца з яго новай кнігай «Загадкі пушчанскай патапечы» сабраліся ўдзельнікі народнага аматарскага аб'яднання «Літаратурная гасцёўня "Крынічка"», супрацоўнікі бібліятэчнай сеткі раёна, знаёмыя, аднакласнікі.

Віктар Уладзіміравіч, як заўсёды, прыехаў не з пустымі рукамі. Для бібліятэк сеткі перадаў свае кнігі. Выданне «За сто кіламетраў на абед» з дарчым подпісам Івана Чыгрынава таксама перайшло ў цэнтральную бібліятэку.

**Тамара КОРШУНАВА**

***

У Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцэна ў межах праекта «Жывы аўтограф» прайшла выстаўка «Узрост — гэта падстава маляваць», дзе былі прадстаўлены работы групы «Акварэльная сесія для пажылых» пад кіраўніцтвам Надзеі Рэпінай.

Ужо тры гады мастачка кіруе студыяй аматараў акварэлі пры Гомельскім абласным грамадскім аб'яднанні «Сацыяльныя праекты». Маючы два дыпломы — канструктара-мадэльера адзення і інжынера-эканаміста, Надзея Аляксандраўна ўзначаліла аматарскае аб'яднанне.

Актыўныя ўдзельнікі ў групе — Ніна Сербунова і Вера Паўлава. Іх работы адрозніваюцца высокім узроўнем выканання. Таксама нельга не адзначыць добрую каларыстыку і ўдалыя мастацкія вобразы ў работах Калмыковай Тамары «Марскі пейзаж», Ільной Вольгі «Памяць». Усяго было выстаўлена 45 работ дзесяці ўдзельніц праекта.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

# Натхняе Полацк

Падарожжа заўсёды ўзнімае дух. Чаму б не сумясціць падарожжа з працай? На такі эксперымент пайшлі майстры секцыі графікі Беларускага саюза мастакоў. Вынікі творчай вандроўкі ў Полацк прадстаўляе выставачны праект «*Tur de* Беларусь. Этап: Мінск — Полацк — Мінск», што адкрыўся ў Палацы мастацтва. Творы станковай, кніжнай, камп'ютарнай графікі, жывапіс, скульптура, арт-аб'екты, прэзентаваныя ў экспазіцыі, — гэта эмацыянальны і інтэлектуальны досвед, набыты падчас ваяжу.

Праект стартаваў летась выставай «*Tur de* Беларусь. Пралог», якая стала своеасаблівай кропкай адліку вялікага падарожжа, падзеленага на этапы. Сёлетні пункт прызначэння — Полацк. Гэты маршрут абраны невыпадкова. З Полацкам звязана ўзнікненне на Беларусі манументальнай архітэктуры. Тут у сярэдзіне XI стагоддзя пабудаваны першы беларускі мураваны храм — Сафійскі сабор, а ў XII стагоддзі сфарміравалася самастойная Полацкая школа дойлідства.

— Полацк — сталіца нашай першай старажытнай дзяржавы, гістарычная Мекка, — адзначыў на ўрачыстым адкрыцці куратар праекта, старшыня секцыі графікі Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч. — Прадстаўленыя творы (каля 140) — уражанні мастакоў ад нашай спадчыны. Трэба цікавіцца культурай, візуалізаваць перажыванні. Вельмі важна знайсці ноту сваёй зямлі.



*Вольга Крупянкова «Падарожніца», 2015 г.*

— Вандроўка графікаў па нашай краіне, па сутнасці, бясконцая, таму што Бацькаўшчыну можна спасцігаць бясконца: кожны народ мае свой нацыянальны космас, — дадаў старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца.

Экспазіцыя ўражвае шырынёй і шматграннасцю. Творчы пошук выліўся ў мастацкае асэнсаванне гісторыі. Эмоцыі, разважанні, светаўспрыманне ўвасобіліся ў афортах, калажах, фотаздымках, ілюстрацыях да кніг. Творцы дэманструюць свабоду ў жанрах і стылях. Шмат работ у абстрактнай манеры. Паказальныя творы Андрэя Савіча «Укрыжаванне», Уладзіміра Вішнеўскага «Рагвалодаў камень», Наталлі Белавокай «Смаляны», «Браслаўшчына», «Сынкавічы. Камяні». Сучасны, крэатыўны падыход у Тамары Шэлест («Каму звоняць камяні»). Унікальныя каліграфічныя інтэрпрэтацыі Паўла Семчанкі: «А. Міцкевіч "Песня"», «Паланэз Агінскага "Шаблі пяюць"», «Я. Купала "Явар і каліна"», «Я. Колас "Сымон-музыка"», «Конь незацугляны».

Ярка вылучаецца нестандартная тэматычная работа «*Windows Belarus*» Канстанціна Вашчанкі: чатыры чорныя квадраты згрупаваны з сімвалічнай выявай у цэнтры — лаканічная адстароненасць. Арганічныя выявы на дошках з выкарыстаннем жалеза Ігара Гардзіёнка: «Вялікі князь літоўскі Транята», «Вялікі князь літоўскі Гедымін», «Вялікі князь літоўскі Міндоўг». Не пакінуць абыякавым тонкія шэдэўры Уладзіміра Мехавіча («Успамінаючы», «Спарта»). Прыцягваюць лісты Вячаслава Паўлаўца з серыі «Згукі Бацькаўшчыны», серыя работ Юрыя Хілько. Арыгінальныя афорты Рамана Сустава, калажы Паўла Амялюсіка, графіка Святланы Петушковай, артэфакты Рыгора Сітніцы, лінагравюры Уладзіміра Правідохіна, серыя жывапісных твораў Андрэя Савіча, лісты Глеба Сідарэнкі і яго ілюстрацыі да аповесці У. Караткевіча «Чазенія».

Адкрыццё выстаўкі супала з днём нараджэння мастака-каліграфа прафесара Паўла Семчанкі. Падзякаваўшы калегам за віншаванні, Павел Апанасавіч выказаўся наконт экспазіцыі:



*Глеб Сідарэнка «Ліст 5». Ілюстрацыя да аповесці У. Караткевіча «Чазенія», 2015 г.*

— Можна заўважыць, што графіка набывае манументальны памер: і тэмы закранаюцца на ўзроўні, і маштаб твораў адпаведны… Яшчэ адна асаблівасць — мастакі пачалі цікавіцца тэмай прасторы. А калі эксперыментуюць з фактурай — гэта ўжо пэўнае чарадзейства…

Праект будзе мець працяг. Наступны этап падарожжа — Гродна.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Фотапрыгоды

Персанальная фотавыстаўка Генадзя Родзікава «Градус колеру» адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. У экспазіцыі прадстаўленая серыя работ, выкананых у нетрадыцыйных тэхніках. Незвычайныя здымкі вы ўбачыце ўпершыню.



Творы аўтара даўно не дэманстраваліся шырокай публіцы: апошняя выстаўка адбылася ў 2005 годзе ў галерэі NOVA. Тады была прадстаўленая рэтраспектыва амаль 30-гадовай творчай дзейнасці майстра: ад ранніх чорна-белых да каляровых мантажных работ.

Цяпер у наведвальнікаў установы ёсць магчымасць пабачыць здымкі, над якімі творца працаваў апошнія дзесяць гадоў. Яны адлюстроўваюць разнастайныя эксперыменты, што аўтар праводзіць з фатаграфічным матэрыялам: сумяшчэнне кадраў, выкарыстанне фільтраў, маніпуляцыі з эмульсійным слоем ды іншыя. У выніку атрымліваюцца нечаканыя рэчы, здольныя здзіўляць і зачароўваць.

Падчас адкрыцця выстаўкі Генадзь Родзікаў распавёў, што першую камеру набыў у 1966 годзе — з гэтага пачалося захапленне фатаграфіяй, якое доўжыцца ўсё жыццё. Аўтар не раскрывае сакрэтаў, як зроблены той ці іншы фотаздымак, але прызнаецца: у яго няма гатовых рашэнняў ці «рэцэптаў» — усе творы нараджаюцца стыхійна, спантанна, у імклівым парыве. Бывае, майстар сам дакладна не ведае, што атрымаецца ў выніку.

Здымкі, прадстаўленныя ў экспазіцыі, сапраўды незвычайныя: яны нагадваюць абстрактныя карціны. Справа ў тым, што, акрамя фатаграфіі, аўтар захапляецца яшчэ і жывапісам, стварае эцюды. Таму надае вялікую ўвагу ўзаемадзеянню святла і колеру, пераносіць жывапісныя законы ў фатаграфічную прастору.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі сябры і калегі Генадзя Родзікава па фотаклубе «Мінск», якія зазначылі: творца не проста фіксуе рэчаіснасць, а ставарае яе на сваіх здымках. Гэта можна назваць авангардам у фатаграфіі.

Экспазіцыя будзе працаваць да 28 лістапада.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Гербарый са сноў

Выстаўка плакатаў Яўгеніюша Гета Станкевіча, польскага мастака з беларускімі каранямі, адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Дзякуючы экспазіцыі можна прасачыць розныя перыяды яго творчасці, пачынаючы з самых ранніх.



Усе экспанаты без подпісаў. Чаму? Няхай кожны ўбачыць свой сэнс. Грацыёзная птушка, падобная на змейку-спружыну, — сімвал спакусы ці падману? Чалавек з ружовымі крыламі замест твару… Няўжо мары заплюшчылі яму вочы настолькі, што ўвесь свет ператварыўся ў нешта неверагоднае? Чалавечых метамарфозаў, якія нібыта прымроіліся ў сне, у польскага творцы шмат, эмоцый — таксама. Птушкі, пёры і гнёзды на галовах — адна з самых распаўсюджаных тэм. А яшчэ — дзіўная самаіронія ў аўтапартрэтах, падкрэсленая індывідуальнасць светаўспрымання, поўная свабода выразу і, урэшце, цяга да эксперыментаў. Метафары хаваюцца амаль у кожным плакаце, неспалучальныя рэчы ўжываюцца на адной прасторы, але з іншага боку ўсё здаецца такім лаканічным!

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца падчас адкрыцця вернісажу паведаміў, што Яўгеніюш Гет Станкевіч здолеў узняць мастацтва польскага плаката на сусветны ўзровень. «Тое, што можна пабачыць на выстаўцы, непадуладна часу. Плакаты, створаныя некалькі дзясяткаў гадоў таму, выглядаюць надзвычай сучасна», — дадаў Рыгор Сітніца.

Яўгеніюш Гет Станкевіч нарадзіўся ў 1942 годзе ў мястэчку Ашмяны на Беларусі, а стаў ганарам мастацкага асяроддзя горада Вроцлаў у Польшчы. Па словах куратара выстаўкі з польскага боку Марэка Станелевіча, плакатыст жыў «у сярэднявечным доміку на ўскрайку Рынкавай плошчы, які наймаў у горада за адзін грош на год». У гэты перыяд аўтар і стварыў свае лепшыя работы. Не толькі з плакатам звязана яго жыццё. Спадар Станкевіч, як найвыдатнейшы педагог, у розныя часы кіраваў майстэрнямі станковай графікі, графічнага праектавання, прафесійнага малюнка ў Акадэміі выяўленчых мастацтваў Вроцлава. Вядомы ён яшчэ і як графік.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі таксама дырэктар Польскага інстытута Томаш Адамскі, старшыня Беларускага саюза дызайнераў Зміцер Сурскі, куратар выстаўкі з беларускага боку Вера Ягоўдзік. Польскія плакаты з'явіліся ў Мінскай галерэі дзякуючы зборам Музея Акадэміі выяўленчых мастацтваў у Вроцлаве, а таксама калекцыі Доміка Медзярытніка. Экспазіцыя падрыхтаваная Польскім інстытутам у Мінску.

**Марыя ВОЙЦІК**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Намеснік галоўнага рэдактара
Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 19.11.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1948.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1498 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12